Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 9 (4707) 1 сакавіка 2013 г.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў членаў рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Беларускі дзіцячы фонд» з 25-годдзем з дня яго заснавання і выказаў упэўненасць, што фонд будзе адным з асноўных партнёраў дзяржавы ў вырашэнні актуальных сацыяльных праблем, рэалізацыі самага галоўнага права кожнага дзіцяці — права на шчаслівае дзяцінства.

✔ Кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з 75-годдзем галоўнага рэдактара расійскай газеты «Завтра» Аляксандра Праханава. «Вы атрымалі заслужанае прызнанне як яркі публіцыст, журналіст і пісьменнік. Газета «Завтра», якую вы ўзначальваеце, вядомая шчырым, нераўнадушным стаўленнем да лёсу Айчыны», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ў сувязі са смерцю акадэміка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, выбітнага вучонага і канструктара, грамадскага дзеяча, Героя Беларусі Міхаіла Высоцкага накіраваў спачуванні яго жонцы, родным, блізкім і калегам.

✔ Удзельнікі і конкурсныя песні міжнароднага фестывалю «Еўрабачанне-2013» будуць вядомыя 18 сакавіка. Іх назавуць на прыёме дэлегацый краін-удзельніц, які адбудзецца ў шведскім горадзе Мальмё.

✔ Выстаўка беларускіх мастачак Ірыны Даманавай і Марыны Мароз адкрылася ў пасольстве Беларусі ў Францыі. Экспазіцыя складаецца з 12 графічных работ. Гэтымі днямі ў Парыжы таксама праходзіць выстаўка, на якой прадстаўлены творы Марка Шагала віцебскай тэматыкі. Тры работы яшчэ аднаго беларускага мастака — Лявона Бакста — экспануюцца на перадаўкцыённай выстаўцы, што папярэднічае чэрвеньскім таргам «Сотбіс».

✔ Ракаўскія майстры адраджаюць радзівілаўскую традыцыю вытворчасці посуду. Гэта тэхналогія ў свой час выкарыстоўвалася на шклозаводах, якія належалі магнацкаму роду. Зробленае сучаснымі майстрамі ўжо набылі прадстаўнікі радзівілаўскага роду і замовілі новыя вырабы.

✔ Прэм'ера першага беларускага поўнаметражнага анімацыйнага фільма «Прыгоды Несцеркі» адбудзецца 25 сакавіка ў сталічным кінатэатры «Дом кіно». Акрамя беларускамоўнай версіі створана рускамоўная для партнёраў з СНД, з англійскімі субцітрамі — для замежных краін.

✔ На гэты год беларуская супольнасць Малдовы запланавала шэраг літаратурных чытанняў, прымеркаваных да юбілеяў класікаў беларускай літаратуры і дзеячаў культуры — В. Дуніна-Марцінкевіча, А. Бачылы, З. Азгура, П. Машэрава і іншых.

Падрыхтавала
Таццяна МАСТОЎСКАЯ



# 3 сакавіка — Сусветны дзень пісьменніка


Фота Кастуся Дробава

## Надзённае

# З Куранёў — у свет

«Круглы стол» па праблеме «Беларуская літаратура ў кантэксце сусветнай» адбыўся ў Выдавецкім доме «Звязда». У ім узялі ўдзел пісьменнікі, літаратуразнаўцы, журналісты, выкладчыкі літаратуры, разам мяркуючы пра шляхі рэтрансляцыі айчыннага вопыту пісьменства на «вялікі свет».

(Чытайце на стар. 8.)

## Пытанне да творцы

# Якіх аўтараў XX стагоддзя павінны ведаць усе?



**Георгій Марчук:**
— Мне здаецца, што сярод тых, каго трэба ведаць абавязкова — Максім Горкі, Міхаіл Булгакаў, Аляксандр Твардоўскі, Васіль Бялоў ды Валянцін Распуцін. Чаму? За магутнае высокамастацкае асвятленне духоўных традыцый свайго народа, за новыя ідэі ў адлюстраванні рэчаіснасці, за адкрыццё новых формаў у літаратуры. Калі казаць пра прадстаўнікоў саюзных рэспублік, я б вылучыў дагестанца Расула Гамзатава, латышскага паэта Зіядоніса і літоўца Эсгяда, які, дарэчы, першы пераклаў мае афарызмы на літоўскую мову. Што датычыць сённяшніх паэтаў так званай "новай генерацыі"... Бяда ў тым, што сучасныя беларускія пісьменнікі мала папулярызуюцца за мяжой. Адсутнасць перакладчыкаў прыводзіць да таго, што ў замежнага чытача няма магчымасці пазнаёміцца з нашай літаратурай. Трагедыя наша менавіта ў гэтым.



**Іван Чарота:**
— Хацелася б нагадаць пра серба Добрыцу Чосіча. Восем гадоў таму ўбачыў свет 25-томны збор яго "Выбраных твораў". Асноўны творчы наробак гэтага пісьменніка — раманы "Сонца далёка", "Казка", "Караці", "Падзелы", "Час смерці", "Час зла", "Грэшнік", "Адступнік", "Вернік", "Час улады", якія маюць пэўную цыклізацыю, утвараюць адпаведную сістэму, а ў выніку складаюць неймавернага маштабу — падобнага больш няма ў літаратуры Сербіі ды, відаць, і большасці краін свету — эпічнае палатно. Адпаведна, зусім не баючыся перабольшвання, можна сцвярджаць, што ніякі іншы сербскі пісьменнік не ўвасобіў так шматстайна, так грунтоўна і ва ўсіх калізіях гістарычнае быццё, дух і характар свайго народа.



**Таццяна Шамякіна:**
— Без сумненняў — Канстанціна Паўстоўскага. Дарэчы, яго вылучалі на Нобелеўскую прэмію ў 1960-я гады, пра што мала хто ведае. У К. Паўстоўскага каля дзесяці вялікіх раманаў, п'есы, шматлікія навелы, казкі, публіцыстыка. Але асабліва значная яго мемуарна-мастацкая эпапея "Аповесць пра жыццё" ў шасці раманах. Чым прываблівае К. Паўстоўскі ў наш час? Што да мяне, то я люблю яго за дабрыню, за паказ цудоўных душэўных якасцей людзей, высакародных стасункаў паміж імі, за пісьменніцкае ўменне ўбачыць у чалавеку лепшае, значнае, прыгожае; за абарону ім прыроды і захапленне высокім мастацтвам. Ён быў у вельмі няпростым, зусім не маналітным на ват і ў савецкі час, пісьменніцкім таварыстве ўвасабленнем сумлення. К. Паўстоўскі цікавы і любімы яшчэ тым, што не раз, і вельмі падрабязна, пісаў пра Беларусь — яе людзей, яе пейзажы.

# З Парыжа

На гэтым тыдні Пастаянны прадстаўнік Беларусі пры ЮНЕСКА Павел Латушка ўручыў даверчыя лісты Генеральнаму дырэктару ЮНЕСКА Ірыне Бокавай. Афіцыйная цырымонія адбылася ў Штаб-кватэры ЮНЕСКА ў Парыжы.

Падчас размовы паміж П. Латушкам і І. Бокавай была падкрэслена вядучая роля ЮНЕСКА ў развіцці міжнароднага супрацоўніцтва. Генеральны дырэктар дала высокую ацэнку ўкладу Беларусі ў дзейнасць ЮНЕСКА, а П. Латушка падкрэсліў актыўнае ўзаемадзеянне ў рэалізацыі сумесных праектаў. Так, у 2012 годзе ў Беларусі рэалізавана 40 праектаў пад эгідай альбо з удзелам ЮНЕСКА. Станоўча была адзначана актыўная праца Нацыянальнай камісіі па справах ЮНЕСКА.

П. Латушка пацвердзіў гатоўнасць у якасці Пастаяннага прадстаўніка працягваць працу, накіраваную на далейшае развіццё супрацоўніцтва. Ён звярнуўся да І. Бокавай з просьбай падтрымаць прапанову Беларусі па ўключэнні ў каляндар памятных дат ЮНЕСКА на 2014 — 2015 гады: 250-годдзя з дня нараджэння Міхала Клеафаса Агінскага і 200-годдзя з дня нараджэння Іосіфа Гашкевіча.

Рашэнне па ўключэнні памятных дат будзе прымацца на Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА ў лістападзе бягучага года. П. Латушка заўважыў: Беларусь ужо цяпер пералічыла свае ўзносы за 2013 год у бюджэт ЮНЕСКА, а таксама ў Фонд аховы Сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны і Фонд аховы нематэрыяльнай спадчыны ЮНЕСКА. Генеральны дырэктар выказала ўдзячнасць Беларусі за падтрымку ЮНЕСКА ў складаных умовах рэфармавання.

І. Бокава выказала гатоўнасць падтрымліваць ініцыятывы Беларусі ў сферы культуры і пашырэння інфармацыі пра рэальны ўнёсак Беларусі ў дзейнасць ЮНЕСКА.

Ад імя Урада Беларусі Павел Латушка запрасіў Ірыну Бокаву наведаць Беларусь з афіцыйным візітам. А ў якасці памятнага падарунка ёй была ўручана паэма Я. Коласа «Новая зямля» з ілюстрацыямі народнага мастака Беларусі Васіля Шаранговіча, выдадзеная Беларускім фондам культуры, і арыгінал адной з ілюстрацый — мастацкі твор «Буслы».

**Дзмітрый ВЕРАМЕЙЧЫК,**
**Першы сакратар**
**Пасольства Беларусі ў Францыі**

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# Рабіць дабро

...Сваімі шчырымі справамі заклікаў нас пры жыцці Аляксандр Капусцін. І сам ён рабіў дабро, калі пісаў кнігі, сустракаўся з чытачамі, аднапалчанамі, рабочымі, аднавяскоўцамі, дарослымі і дзецьмі. З кожным ён знаходзіў тыя пранікнёныя словы, якія нараджалі давер да яго як чалавека, дарадцы, сябра. Таму і не згасае памяць пра земляка на яго малой Радзіме. І штогод на Жлобіншчыне ладзяцца памятныя мерапрыемствы ў гонар пісьменніка і краязнаўцы. Сёлета яны прайшлі гэтак жа запамінальна.


*Уладзімір Гаўрыловіч уручае дыплом Капусцінскаму лаўрэату Міхасю Сліве.*

**Улад ПРЫАЗЁРНЫ**

На мясцовых могілках адбыўся кароткі мітынг-рэквіем, а ў раённай цэнтральнай бібліятэцы прайшоў літаратурны вечар, прысвечаны жыццёваму і творчаму шляху пісьменніка.

На памятным мерапрыемстве дэманстраваліся відэакадры пра пісьменніка-франтавіка, ганаровага грамадзяніна горада Жлобіна, пра чалавека, улюбёнага ў сваю працу, у родны край, патрыёта, які ўсё жыццё ішоў туды, дзе цяжэй, пісьменніка, які пакінуў выдатныя творы, рупліўцу на ніве прыгожага пісьменства. Сваё слова на памятнай сустрэчы прамовілі намеснік старшыні райвыканкама Віктар Касцяйкоў, старшыня Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, празаік і публіцыст Уладзімір Гаўрыловіч, ветэран перыядычнага друку Пётр Шутаў, пляменніца празаіка Зоя Бібікава.

Райвыканкамам і пісьменніцкай арганізацыяй заснавана абласная літаратурная прэмія імя Аляксандра Капусціна. Лаўрэаты яе — вядомыя літаратары, журналісты, дзеячы культуры і краязнаўцы. Сёлета прынята сумеснае рашэнне па прысуджэнні прэміі калектыву раённай газеты «Новы дзень»: яе супрацоўнікі прапагандуюць спадчыну пісьменніка-земляка, актыўна знаёмяць чытачоў з яго патрыятычнымі і высокадухоўнымі творамі. Пры жыцці ў рэдакцыю пастаянна завітваў сам празаік — гутарыў з супрацоўнікамі, дарыў новыя кнігі, прапаноўваў цікавыя краязнаўчыя матэрыялы. Цяперашні галоўны рэдактар Галіна Мельнікава стала ля вытокаў арганізацыі абласной прэміі. Лаўрэатам літаратурнай прэміі сёлета стаў і празаік, публіцыст, гумарыст Міхась Кавалёў (Сліва) з суседняга Рагачова.

Падчас памятных мерапрыемстваў намеснік старшыні райвыканкама В. Касцяйкоў і старшыня Гомельскага абласнога аддзялення СПБ У. Гаўрыловіч абмеркавалі планы далейшага супрацоўніцтва дзеля захавання памяці А. Капусціна і падтрымкі мясцовых аўтараў, маладых літаратараў.

# Пра ваенныя мас-медыя

На інфармацыйнай прасторы Беларусі добра вядомыя мас-медыя Міністэрства абароны нашай краіны. Днямі ў калектыве ваенна-інфармацыйнага агенцтва “Ваяр” адбылася сустрэча з дырэктарам—галоўным рэдактарам РВУ “Выдавецкі дом “Звязда” Алесем Карлюкевічам.

**Сяргей ШЫЧКО**

Пасля падрабязнага расповеду пра новую мас-медыйную структуру, газеты “Звязда” і “Літаратура і мастацтва”, літаратурна-мастацкія часопісы “Полымя”, “Маладосць”, “Нёман”, часопіс сатыры і гумару “Вожык” кіраўнік Выдавецкага дома “Звязда” пазнаёміў вайскоўцаў з кніжнымі навінкамі “Звязды”. Журналісты, супрацоўнікі друкаваных і электронных мас-медыя “Ваяра” задалі шмат пытанняў. Датычыліся яны і развіцця сучаснай беларускай літаратуры, друкаванай кнігі ўвогуле. На сустрэчы гучалі імёны беларускіх і рускіх пісьменнікаў: Уладзіміра Караткевіча і Яўгенія Еўтушэнкі, Алены Брава і Валянціна Распуціна, Сяргея Клімковіча і Юрыя Сапажкова, Алега Ждана і Алеся Кажадуба...

Паступова размова перайшла ў фармат дыскусіі пра надзённыя клопаты мастацкага слова, яго вартасці, пра традыцыі і наватарства. Варта нагадаць, што ў сённяшняй “Белорусской военной газеты” папярэдніцай была “Красноармейская правда”, у якой яшчэ ў 1920-я гг. друкаваўся Кандрат Крапіва, а ў час Вялікай Айчыннай вайны ў штаце франтавой газеты працаваў Аляксандр Твардоўскі. У пасляваенныя гады з газетай Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі былі звязаны лёс беларускіх пісьменнікаў Міхася Калачынскага, Аляксандра Дракахруста, Пятра Прыходзькі, Віктара Трыхманенкі, Рыгора Сакалоўскага і іншых паэтаў, празаікаў. Часта друкаваўся і друкуецца ў “Белорусской военной газете” генерал-маёр авіяцыі ў адстаўцы, празаік, публіцыст Анатоль Сульянаў.

# Адраджаюцца «Чараўніцы»!

8 сакавіка ў канцэртнай зале «Мінск» адбудзецца выступленне групы «Чараўніцы».

**Ірына ТУЛУПАВА**

Прагучаць добра вядомыя песні: «Пах чабаровы» (У. Буднік, К. Кірэенка), «Не за вочы чорныя» (Ю. Семяняка, А. Русак), «Вярба» (народная), «Ой, сівы конь бяжыць» (народная) ды іншыя.

Сярод эстрадных калектываў 1980-х гг. ансамбль займаў адно з вядучых месцаў. Гэта быў адзін з нямногіх жаночых вакальна-інструментальных ансамбляў, якія гучалі на Беларусі і па-за яе межамі. Пасля таго, як дзяўчаты паспяхова выступілі ў 1974 годзе на І Рэспубліканскім конкурсе артыстаў эстрады, калектыў быў адразу залічаны ў штат Белдзяржфілармоніі. Гледачоў уразілі іх шчырасць і непасрэднасць, лірычнасць і чысціня галасоў. Але перыяд росквіту вакальна-інструментальных ансамбляў змяніўся эпохай эстраднага бізнесу, на сцэну прыйшлі рок-, поп-гурты, і пра ВІА, яскравым прадстаўніцам якіх былі «Чараўніцы», забыліся.

У пачатку 2012 года ансамбль адрадзіўся, і знаёмыя песні загучалі ў сучаснай апрацоўцы. «Чараўніцы», як і раней, для выступленняў адбіраюць найперш беларускія песні — яны і складаюць аснову рэпертуару.

*Актуальна*

# Конкурс даследчых прац

**Людміла ГАТАВІЦКАЯ**

У Гімназіі № 12 г. Мінска адбыўся рэспубліканскі конкурс даследчых прац вучняў па прадметах «Беларуская мова», «Беларуская літаратура», «Руская мова», «Руская літаратура». Конкурс стаў формай інтэлектуальнага змагання вучняў па выкананні імі даследчых прац і абароне атрыманых вынікаў у публічнай дыскусіі. Удзел узялі больш як 400 прадстаўнікоў усіх рэгіёнаў краіны, ліцэя БДУ і ліцэя БНТУ.

На ўрачыстым адкрыцці канферэнцыі прысутнічалі міністр адукацыі Рэспублікі Беларусь Сяргей Маскевіч, старшыня Камітэта па адукацыі Мінгарвыканкама Міхась МіронЧык, прадстаўнікі Саюза пісьменнікаў Беларусі і РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» Генадзь Пашкоў і Рагнед Малахоўскі, кіраўнікі каманд навучэнцаў і самі ўдзельнікі. «Удзел школьнікаў у конкурсе даследчых прац дапамагае ім лепш разабрацца ў сваіх прыярытэтах і дае магчымасць зрабіць першы крок да выбару прафесіі, — адзначыў міністр адукацыі. — Краіне патрэбныя маладыя людзі, якія гатовыя вырашаць нестандартныя задачы. А гэта немагчыма зрабіць адразу, бо навукоўцамі не нараджаюцца — імі становяцца ў выніку карпатлівай працы. Пераможцаў конкурсу вызначыла журы на чале з Ганнай Валочкай, загадчыкам лабараторыі гуманітарнай адукацыі навукова-метадычнай установы «Нацыянальны інстытут адукацыі».

Пераможцы былі ўзнагароджаныя дыпломамі І, ІІ і ІІІ ступеняў, дыпломамі Саюза пісьменнікаў Беларусі, падарункамі ад РВУ «Выдавецкі дом «Звязда». Дыпломы І ступені атрымалі вучань 11 класа Мінскага суворўскага ваеннага вучылішча Антон Махуноў і вучаніца 10 класа Мінскага дзяржаўнага абласнога ліцэя Данута Грынь.

# У магістральным рэчышчы

Тэматычны семінар «СМІ і мастацкая культура» ў Інстытуце журналістыкі БДУ — выдатны складнік адукацыі будучых арт-журналістаў і літаратурных крытыкаў, дадатковая магчымасць самаадукацыі тых, хто ўжо працуе на гэтай глебе.

Слухачы і ўдзельнікі маглі пераканацца, што «літкрытыка» і «арт-крытыка» надзвычай запатрабаваныя. Але значнасць вымагае «адпавядаць», што атрымліваецца не заўсёды — такі лейтматыў разваг найбольш вядомых прадстаўнікоў галіны, запрошаных кафедрай літаратурна-мастацкай крытыкі. Ірына Шаўлякова паказала «калапс» і «дысфункцыю» сучаснай літаратурнай крытыкі на фоне размывання яе асноўнага наканавання — ацэньваць.

Слушнымі падаліся парады Надзеі Бунцэвіч, вядомага музыкальнага крытыка. «Сур'ёзныя ідэі таксама могуць быць выкладзены па-мастацку» — адпаведна мастацкасці з'явы і нават адпаведна стылю творцы, пра якога распавядае артыкул. «Спалучаць стыль і думку» — магістральнае рэчышча сапраўднай крытыкі.

Увага звярталася на невысокія ганарары, заўважалася, што крытык часта вымушаны быць ледзь не сервільным. Прыемным «адпачынкам» сталіся разважанні Ігара Сукманава. Ён актуалізаваў іншыя праблемы. Існуе інтэрнэт, які разбурае грунтоўнасць мыслення і «дэмакратычнай большасці», і самых вытанчаных крытыкаў. «Перадазіраваны» крытык-аналітык не здольны адэкватна ўспрымаць факт мастацтва, а яму яшчэ трэба дбаць пра якасць і даступнасць рэтрансляцыі ўспрымання.

Ёсць над чым разважаць, ёсць над чым працаваць...

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

*Літабсягі*

# Цяпло сям'і, цяпло сяброўства

У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адбылася літаратурная сустрэча з цыкла "Нашчадкі славутых людзей", прымеркаваная да 120-годдзя з дня нараджэння Максіма Гарэцкага і Леанілы Гарэцкай-Чарняўскай. Сем'і Гарэцкіх і Міцкевічаў, блізкія па духу і справах, цесна сябравалі паміж сабой — пра гэта ўспаміналі іх нашчадкі: Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі, пляменнік Максіма Гарэцкага, і Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч, сын Якуба Коласа.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

Вельмі прыемна, што цёплыя стасункі захоўваюцца і цяпер: Радзім Гарэцкі з жонкай Галінай Рыгораўнай адчуваюць гасціннасць Коласавага дома, шанаванне і любоў Коласавай сям'і. Атмасферай утульнай цеплыні, падкрэсленай нягучнай класічнай музыкай, прасякнутыя сцены музея — адчуць яе маглі ўсе прысутныя.

Упершыню Якуб Колас і Максім Гарэцкі сустрэліся, калі разам выкладалі на рабфаку ўніверсітэта. Потым пасябравалі, гасцявалі адзін у аднаго, шчыра ліставаліся, адчувалі ўзаемападтрымку ў літаратурных справах. Пра гэта распавёў Міхась Канстанцінавіч. Для Радзіма Гаўрылавіча сустрэча стала нагодай прыгадаць сямейнае жыццё, лёс і характары блізкіх Максіма Гарэцкага: жонкі, дзяцей, брата, пляменнікаў.

Колькі б ні імкнуліся навукоўцы і пісьменнікі адарваць класікаў ад мармуровых пастаментаў, узнаўляючы іх чалавечыя постаці ў верагодных эпізодах паўсядзённага жыцця або па-мастацку інсталюючы эпізоды рэальныя, нішто не заменіць жывое слова сведак. Радзім Гарэцкі каменціруе фотаздымак маці і бацькі Максіма і Гаўрылы: "Здаецца, як у непісьменных людзей мог вырасці сын-пісьменнік — і надзвычай адукаваны, шматгранны? Але ж маці, Ефрасіння Міхайлаўна, была народнай пясняркай. Максім запісаў 318 яе песень, апрацаваных кампазітарамі М. Аладавым, Я. Цікоцкім і інш. Як, напрыклад, песня: "Кума мая, кумачка, дзе жывеш?.. Чаму ж мяне ў госцікі не завеш?.." Ведала маці таксама казкі і была, такім чынам, сапраўдным фалькларыстам. Вось яно, "роднае карэнне": любоў да мовы, да сваёй зямлі, свайго народа".

Трагічная старонка жыцця Максіма Гарэцкага, пра якую шырокі чытач наўрад ці ведае, — смерць сына Леаніда, якога забілі ў 1944 г. пад Ленінградам. "Лёню было тады 20 гадоў. Увогуле, ён цягнуўся да канструктарства, выдатна маляваў. Але лісты яго з фронту вельмі нагадваюць бацькаў твор "На імперыялістычнай вайне" і нават былі вылучаныя потым на прэмію Ленінскага камсамола. Але палічылі — мёртваму навошта даваць?.." Месца пахавання Леаніда Гарэцкага, як і яго бацькі, — невядомае.

Трагічныя лёсы, трагічныя старонкі гісторыі... Напэўна, з прагай зрабіць "і за тых, хто загінуў", — узды м надзвычай трывалых пасталей тых, каму пашчасціла выжыць: Леанілы і Галіны Гарэцкіх, Радзіма Гаўрылавіча Гарэцкага і яго брата Усяслава. Іх (ды іншых нашчадкаў славутых людзей) руплівай працы ў першую чаргу над сабой — сваёй адукацыяй, сваім выхаваннем як Асоб — мы абавязаныя захаваннем памяці і спадчыны класікаў.



Фота Кастуся Дробава

Распавядае Радзім Гарэцкі.

*Арт-лінія*

# Кераміка паспрыяла дамове

Выстаўка «Польская кераміка XVIII — XX стст.» са збору Верхнесілезскага музея ў Бытаме адкрылася ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь.

**Дзіяна КАРОЛЬ**

Экспазіцыя не толькі знаёміць з творамі сілезскіх керамічных і парцалянавых мануфактур, але і з'яўляецца прэзентацыяй аднаго з найбуйнейшых польскіх музеяў, дзе цяпер экспануюцца лепшыя вырабы польскіх фабрык ад XVIII да XX стагоддзя. Адным з ключавых у калекцыі з'яўляецца збор фаянсу з сілезскіх мануфактур — Прушкава, Глініцы, Рацібора і Тулавіц.

На выстаўцы «Польская кераміка XVIII — XX стст.», арганізаванай сумесна Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, Верхнесілезскім музеем у Бытаме, Польскім Інстытутам у Мінску, Нацыянальным мастацкім музеем Беларусі, Віцебскім краязнаўчым музеем, прадстаўлена каля 150 твораў. Як распавяла загадчыца аддзела замежнага мастацтва Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі Алена Сінкевіч, экспазіцыя вельмі цікавая з навуковага пункту гледжання.



Кававы збанок з накрыўкай. 1842 — 1857. Карычневая керамічная гліна, паліва, выпуклае аздабленне, пасярэбраны.

Напрыклад, вельмі цікавыя вырабы XVIII ст. з Прушкава — першай мануфактуры на тэрыторыі Верхняй Сілезіі. Нягледзячы на тое, што творы выкананы ў фаянсе, яны блізкія да тэндэнцый, характэрных для еўрапейскага і нават рускага фарфору таго часу.

Значная падзея адбылася ў дзень адкрыцця выстаўкі: паміж Нацыянальным мастацкім музеем Беларусі і Верхнесілезскім музеем у Бытаме была падпісана дамова аб супрацоўніцтве на пяць год.

— Вельмі важна актывізаваць творчыя стасункі паміж беларускімі і польскімі музеямі, — пракаментіраваў падпісанне дамовы дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі Уладзімір Пракапцоў. — На дадзены момант мы, улічваючы прапановы дырэктараў беларускіх музеяў, плануем з польскімі калегамі шэраг праектаў. Магчыма, ужо ў хуткім часе распачнём міжнародны праект выстаўкі твораў Ф. Рушчыца са збораў польскіх, украінскіх, літоўскіх і беларускіх музеяў.

У сваю чаргу, дырэктар Верхнесілезскага музея ў Бытаме Дамінік Абламовіч зазначыў, што ён вельмі чакае моманту, калі яго землякі змогуць пабачыць экспазіцыі з беларускіх музеяў і больш даведацца пра культуру Беларусі.

*Повязі*



Фота Наталлі Купрэвіч

Зарыфа Салахава прадстаўляе двухтомнае выданне «Жалейкі» Янкі Купалы ў мініяцюры.

# «Жалейка» ў мініяцюры

Здавалася б, урачыстыя імпрэзы, прысвечаныя 130-гадоваму юбілею Янкі Купалы, адгрымелі яшчэ ў мінулым годзе. Але ж не. Зусім нядаўна беларусы атрымалі выдатны падарунак з Баку — кнігу «Жалейка» 1908 года выдання ў мініяцюрным фармаце — 35 на 47 міліметраў.

**Марына ВЕСЯЛУХА.**

Гэты сапраўды ўнікальны выдавецкі праект адбыўся па ініцыятыве дырэктара Музея мініяцюрных кніг г. Баку Зарыфы Салахавай і пры фінансавай падтрымцы Міжнароднага грамадскага аб'яднання «Кангрэс азербайджанскіх абшчын Беларусі». «Жалейка» ў мініяцюры была перададзена ў Музей кнігі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

Атрымалася так, што ў новым фармаце кніга вершаў і паэм Янкі Купалы ператварылася ў двухтомнік. У першым томе 282 старонкі, ён змяшчае 65 вершаў, у другім — 288 старонак, у яго ўвайшло 35 вершаў і паэм. Падчас урачыстай імпрэзы ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі заснавальніца і стваральніца Музея мініяцюрных кніг г. Баку Зарыфа Салахава распавяла:

— Першым з беларусаў, хто трапіў у наш Музей мініяцюрнай кнігі і пазнаёміўся з экспазіцыяй, быў дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі. З цягам часу разам з пасольствам Беларусі ў Азербайджане мы арганізавалі тут, у Мінску, выстаўку «Азербайджан — Беларусь і сусветная класіка ў мініяцюрнай кнізе». Выстаўка адбылася ў верасні 2009 года і мела вялікі поспех, а яе адкрыццё прайшло на вельмі высокім узроўні. Была паездка ў Полацк, адкуль я вярнулася моцна ўражаная. І вось у мінулым годзе, калі адзначалася 130-годдзе Я. Купалы, ажыццявілася мая задумка выдаць зборнік класічных твораў беларускай літаратуры ў мініяцюры.

Кніга «Жалейка» ў новым фармаце пабачыла свет у азербайджанскім выдавецтве Indigo накладам усяго 50 асобнікаў. Першыя экземпляры перададзеныя ў дар Прэзідэнту Азербайджанскай Рэспублікі Ільхаму Аліеву, а таксама адпраўлены Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Аляксандру Лукашэнку. Натуральна, асобнікі гэтага ўнікальнага выдання былі падораныя і Дзяржаўнаму літаратурнаму музею Янкі Купалы. Дырэктар музея Алена Ляшковіч адзначыла:

— Нам вельмі прыемна, што творчасць Янкі Купалы цікавая не толькі беларусам, але запатрабаваная ва ўсім свеце. 2012 год, юбілейны, гэта яшчэ раз даказаў. Імпрэзы, прысвечаныя класіку, апроч Беларусі прайшлі ў многіх іншых краінах. Янка Купала на азербайджанскай мове загучаў яшчэ ў 1935 годзе, і гэты падарунак з Баку для нас удвая прыемны. Вы звярнулі ўвагу менавіта на творчасць першага народнага паэта Беларусі і выдалі яго кнігу ў мініяцюры. Яе з'яўленне сімвалічнае яшчэ і таму, што сёлета мы адзначаем 105-годдзе выхаду «Жалейкі».

*Абрысы*

Больш як 40 урокаў роднай мовы і літаратуры правялі ў Міжнародны дзень роднай мовы пісьменнікі Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. У гімназіях № 7 і № 15, бібліятэках № 5 і № 10 г. Мінска ў ролі настаўнікаў выступілі вядомыя пісьменнікі, паэты, літаратуразнаўцы Уладзімір Скарынкін, Міхась Пазнякоў, Васіль Шырко, Мікола Маляўка, Дзмітрый Дземідовіч, Валерый Максімовіч, Юрген Гарадніцкі, Юрась Нераток, Мікола Жыгоцкі, Таісія Трафімава, Іван Цітавец, Іна Фралова. Ішла размова пра сучасны літаратурны працэс, гучалі вершы і песні, пісьменнікі адказалі на шматлікія пытанні гімназістаў, падарылі свае кнігі з аўтографамі.

У Міжнародны дзень роднай мовы гасцямі Мінскай гарадской бібліятэкі імя Францішка Багушэвіча былі гадаванцы Дзіцячага сада № 284 і іх выхавальнікі. Тут адбылася літаратурная сустрэча з паэтам, старшынёй секцыі дзіцячай літаратуры саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімірам Мазго. Пісьменнік расказаў прысутным пра творчы шлях да роднага слова, першыя публікацыі ў друку і запісы на радыё, прэзентаваў новыя кнігі «Лепшыя сябры» і «Загадкавая азбука», што летась выйшлі ў выдавецтве «Народная асвета». Юныя чытачы на прыкладзе вершаў, скорагаворак, пацешак, загадак, што прачытаў паэт, адчулі мілагучнасць і сакавітасць роднай мовы. Многія вярталіся дадому з кнігамі пісьменніка і жаданнем чытаць па-беларуску.

У Інстытуце журналістыкі БДУ адбыўся выпуск другога набору студэнтаў спецыяльнасці «Літаратурна-мастацкая творчасць». Падчас уручэння дыпломаў дэкан факультэта перападрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі Ганна Басава падкрэсліла, што асобам, якія вырашылі атрымаць яшчэ адзін дыплом, пашанцавала: яны зрабілі свядомы выбар на карысць творчасці і дзякуючы атрыманым ведам змогуць прэтэндаваць на працу ў культурных выданнях краіны. Загадчыца кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Людміла Саянкова адзначыла, што выпускнікі з'яўляюцца «творчым эксклюзівам», бо маюць грунтоўную падрыхтоўку як у літаратуры, так і ў галіне крытыкі. Дарэчы, новы набор на дадзеную спецыяльнасць ужо распачаўся.

Выстаўка арыгамі «Сусвет папяровага аркуша» адкрылася сёння ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. У экспазіцыі прадстаўлены работы майстроў з Беларусі, Расіі, Украіны і Турцыі, а ў выставачнай зале сабраліся ўдзельнікі, пераможцы і арганізатары міжнародных інтэрнэт-алімпіяд па арыгамі. Наведвальнікаў дзівяць стракатыя матылі і імклівыя ластаўкі, незвычайныя рыбкі і фантастычныя цмокі, каляровыя мазаікі і аб'ёмныя кампазіцыі — больш як 300 экспанатаў, якія паказваюць бязмежныя магчымасці аркуша паперы. На выстаўцы працуе інтэрактыўная зона, дзе кожны жадаючы можа скласці фігурку жорава, традыцыйную японскую скрыначку Дзунако ці іншыя нескладаныя мадэлі.

# Рарытэт: ілюстраваны атлас далікатнасці

**Далікатнасць у спісе базавых кампетэнцый беларускага пісьменніка сёння займае нават не апошняе месца. Строга кажучы, у гэтым "прайс-лісце" яе зусім няма. Яна ўганароўвае вяршыню спіса найбольш істотных перашкод, што паўстаюць перад айчынным літаратарам на шматпакутным шляху да актуальнасці (у найноўшым яе разуменні — як адпаведнасці трэндам новай інфармацыйнай рэальнасці і дзівоснай экзістэнцыі роднай літпрасторы).**

Ірына ШАЎЛЯКОВА

У сувязі з гэтым сур'ёзных падстаў для панікі ў творчай супольнасці быць не можа: далікатнасць як уласцівасць асобасная і тым больш як сутнасная характарыстыка індывідуальна-творчага стылю ў тутэйшай літаратурнай экасістэме з пачатку "нулявых" практычна не набываецца. Нават назіраць за ёй як за феноменам хутка можна будзе толькі ў лабараторных умовах (абапіраючыся выключна на рэтраспектыву). Справа не толькі ў згортванні самой каштоўнаснай парадыгмы, дзе згаданая далікатнасць мела шанцы хаця б на простае самааднаўленне. Спраўджванне мары пра актуальнасць у беларускай літаратурнай прасторы апошніх двух дзесяцігоддзяў — гэта рацыяналізаваная праектная дзейнасць. У яе межах слова "далікатнасць" зрэдчас рэанімуецца як эўфемізм увішнасці, а сама якасць уважаецца за прыроджаную хваробу: жыць з ёй нібыта й можна, але актуалізавацца страшна нязручна.

Зрэшты, для аўтара празаічнай кнігі "На трапяткім агні" далікатнасць ёсць калі не адзіна магчымым, дык дакладна найбольш прымальным прынцыпам асобаснага існавання. Дзесяцігоддзе, што аддзяляе згаданы зборнік "навел, эсэ, публіцыстыкі" Навума Гальпяровіча ад яго кнігі эсэ "Шляхі і вяртанні" (2001), пісьменнік не марнаваў на пошукі новых прынцыпаў. Нежаданне мітусіцца, аднак, не тоеснае "самакансервацыі", адсутнасці руху, што яскрава засведчана ўжо ў мастацкай эсэістыцы Н. Гальпяровіча на пачатку "нулявых". Шэраг аргументаў прыводзіўся ў артыкуле "Тэорыя змагання (штрыхі да творчага партрэта Н. Гальпяровіча)", надрукаваным у адным са жнівеньскіх нумароў "ЛіМа" за 2002 год. Забаўны, але павучальны (найперш для непахісных рацыяналістаў) нюанс: першапачаткова крытычны тэкст называўся "Тэрыторыя змагання", але ў містычным хранатопе рэдакцыйных сутарэнняў адбылася своеасаблівая "канцэптуалізацыя прасторы" — і "тэрыторыя" сталася "тэорыяй". Калі меркаваць па кнізе "На трапяткім агні", на эвалюцыю мастацкага свету прозы Н. Гальпяровіча істотна не ўплываюць ні вонкавыя падзеі, ні сілы містычныя (для зручнасці абагулім іх у вобразе... рэдактара — сучасныя літаратары з вусцішнай асалодай дэманізуюць гэты "персанаж" і ў белетрыстыцы, і ў мемуарыстыцы!). Уся патэнцыяльная энергія, увесь "агонь далікатнасці" аказаліся скіраванымі не на высвятленне стасункаў з недасканалым вонкавым светам, але на адмысловую рэвізію і пераўтварэнне "ўнутранага космасу". Тэарэтычна гэта ўтрымлівае для аўтара адразу некалькі сур'ёзных пагроз. З аднаго боку, бесперапынны ўнутраны "аўдыт", самарэфлексія як марафон могуць справакаваць аўтадафэ, эмацыянальна-псіхалагічнае "самаспаленне". З другога боку, паўстае небяспека творчага "выгарання" — тэматычнай, вобразнастылявой "аўта-таўталогіі". Зрэшты, ад апошняга Н. Гальпяровіча ахоўвае "біяграфія", якой у кнізе "На трапяткім агні" хапае на ўсе аўтаравы інкарнацыі: і на "эсэіста" ("Паміж цэнтрам і ўскраінай", "Шляхі і вяртанні", "Адлюстраванні"), і на "публіцыста" ("І вечнасць хай сюжэт запіша наш"), і "навеліста" застаецца ("На трапяткім агні"). Заўважым, што менавіта творы апошняга са згаданых раздзелаў з найбольшай пэўнасцю можна аднесці да ўласна прозы. Яны складваюцца ў "атлас кахання", дзе прадстаўлены самыя розныя "экзістэнцыйныя жанры": каханне-"хвароба", жарсць ("Неюрыдычны тэрмін"); звычайная гісторыя звычайнага шлюбу ("Мемарыял"); каханне кветкава-паэтычнае ("Букет", "Кветкі"); каханне прывідна-хуткаплыннае ("Белая кроў"), "апошняе каханне" ("Чырвоная ружа").

Размеркаванне твораў па пяці раздзелах-нізках немэтазгодна разглядаць як падзел сфер уплыву паміж згаданымі інкарнацыямі аўтара. Строга кажучы, у творах кожнай з частак мы маем справу з сінтэзам эсэістыкі (як тэхналогіяй урэчаўлення паэтыкі свету ў паэтыцы тэксту), навелістычнасці (запатрабаванай у аспекце тэхнікі пісьма) і публіцыстычнасці (што абумоўлівае спецыфіку ранжыравання аўтарам тых "рэчаў", які вартыя таго, каб стацца "вобразамі"). На ўзроўні кнігі сам сінтэз забяспечваецца ўспаміннасцю, што паўстае адначасова і вытокам мастацкага хранатопу, і падзейным "рухавіком", і лейтматыўным вобразам-настроем.

Так, у раздзеле "Паміж цэнтрам і ўскраінай" на грунце ўспаміннасці разгортваецца своеасаблівы "полацкі сшытак", дзе Полацк (альфа і амега жыццятворчасці апавядальніка) з карпатлівай узнёсласцю "выбудоўваецца" па індывідуальным праекце, прынцыпова не паўтаральным. Дзеля справядлівасці варта адзначыць, што неяк незаўважна "архітэктар" забудоўвае сваім Полацкам ці не ўсю кнігу. Дзякуючы Н. Гальпяровічу пашыраецца і экспазіцыя "музея Мястэчка", дзе пад адкрытым небам памяці збіраюцца беларускія выспы роднасці: "Зноў чытаю Уладзіміра Сцяпана і ўзгадваю свой прыгарадны полацкі пасёлак з дзіўнай назвай "Пітомнік", сяброў, суседзяў, равеснікаў, большасць з якіх у дзяцінстве былі хуліганамі. <...> "Пітомнік" быў не горад і не вёска, хаця жыццёвы ўклад большасці яго насельнікаў быў абсалютна вясковы. Там мае незабыўныя дзіцячыя гады, туды імкнуцца мае сны і шчымлівыя ўспаміны" ("Адлюстраванні"). Пры гэтым нібыта мімаходзь аўтар падняўляе-"разбудоўвае" і "жывы архіў" беларускага мастацтва слова: "...узгадаўся мне сонечны Полацк і маладая постаць пісьменніка (У. Караткевіча. — **І. Ш.**). Так і крочыць ён у маёй памяці па зялёным полі аэрапорта, па вісячым мастку каля полацкай Сафіі, якая, як і тады, плыве над Дзвіною, нібы карабель..." ("Выйшаў сейбіт на ніві сваё").

У межах раздзела "Паміж цэнтрам і ўскраінай" шэраг твораў ("Палата", "Кароль", "Футбол", "Чорны чалавек") узаемапрыцягваюцца як адмысловыя (завершаныя і разам з тым звязаныя на ўзроўні тэматычных, падзейных, вобразных перагукаў) часткі рамана выхавання. Прычым адметная ўвага засяроджваецца на калізіях літаратурнай ініцыяцыі юнага героя ("Ліст Маршака", "Пад святлом белых начэй") і сакральнай ролі беларускай літаратуры: "Яшчэ калі быў школьнікам, менавіта Караткевіч запаліў у душы шчаслівы і светлы агонь высокага захаплення і замілавання ад простых і знаёмых слоў, на якіх, аказваецца, можна выказваць высокія і светлыя пачуцці" ("Мецэна").

Іншыя творы гэтай нізкі ("Бабуля", "Браты", "Вернасць", "Радня") таксама імкнуцца да ўз'яднання — як складнікі сямейнай сагі з элементамі раманападарожжа, спецыфічнага, бо размова ідзе пра вандроўкі-вяртанні ў час роднасці, калі свет яшчэ быў абсалютна дасканалым, "новым", без чорных дзірак нябыту, бо ўвесь быў жывы — і ўсе ў ім былі жывыя. Зрэшты, якраз унутры гэтага "ўтульнага эпасу" выяўляецца пласт праблематыкі, якая ў айчынным прыгожым пісьменстве з годнасцю ігнаруецца — з прычыны "нязручнасці":

"Стаць беларусам было нялёгка. Я лавіў непаразуменне ў вачах некаторых блізкіх людзей і нават сяброў, а з боку тых, хто, як я, быў такі ж кучаравы і чарнявы, нават крыўду.

— Не трэба адмаўляцца ад свайго народа, сынок, — сказаў мне аднойчы мой




мудры настаўнік. — Любі Беларусь, але памятай, хто твае продкі. Гэта вялікі і шматпакутны народ.

Так сталі ўва мне жыць памяць продкаў і гонар за свой край, за яго людзей і герояў" ("Мецэна").

Пошукі сябе самога я-герой прозы Н. Гальпяровіча вядзе ў экстрэмальных умовах — на сацыякультурным скрыжаванні ку "паміж цэнтрам і ўскраінай". Нагоды для самарэфлексіі жыццё рассыпае перад ім па "навелістычным" прынцыпе: юны герой фармулюе для самога сябе пытанні нават у тых выпадках, у якіх для полацкіх сябрукоў па вызначэнні няма падстаў перажываць. І вырашаюцца гэтыя пытанні ў навелістычным ключы, праўда, навелістычнасць тая своеасаблівая — далікатная. У "полацкім сшытку" аўтар практычна не хавае радавога імя: "Дзядзька Раман быў дырэктарам школы, што ў пралетарскай сям'і майго бацькі выклікала вялікі гонар. Гальпяровічы ж усе былі муляры і печнікі, і мой бацька, не давучыўшыся да вайны ў Магілёўскім будаўнічым тэхнікуме і вярнуўшыся з фронту без рукі, працаваў на розных дробных пасадах, завяршыўшы свой працоўны шлях будаўніком" ("Браты"). А вось "загадку" імя ўласнага герой, які "з цяжкасцю прывыкаў да свайго "дарослага", поўнага імені, якое ўжо не здавалася такім рэдкім", так і не адкрывае: "А што датычыцца імя, то яно маё і толькі маё. І тое, што засталося ў дзяцінстве, дарагое і далёкае, як успамін, як таемная і салодкая часцінка душы, узгадваць пра што сёння вусцішна і балюча, бо гэтага ўжо не вернеш ніколі" ("Імя").

Храналагічна пошукі імені асобы ахоплівають дзяцінства, падлеткавую пару, юнацтва — і вымыкаюцца за межы класічнай "гісторыі сталення":

"— Ты слухай, што я табе скажу. Сёння гэты сад во, і хата, значыць, і ўсё, што тут ёсць, і тваё таксама, — зноў загаварыў цесць. — Ты, значыць, будзь як дома. І нічога не падумай такога. Мы ж цяпер радня".

Гэтак "проста" падчас першай ж вандроўкі я-героя "Радні" да сваякоў жонкі, у "вялікае палескае сяло" цесць Іван Георгіевіч "ідэнтыфікуе" зяця, мудра ігнаруючы невырашальнасць цэлага комплексу праблем identity.

Калі ў раздзеле "Паміж цэнтрам і ўскраінай" у якасці своеасаблівага метасюжэта акрэсліваюцца пошукі я-героем самасці (сваёй роднасці), то ў нізцы "Шляхі і вяртанні" дзівосным чынам ужо роднасць адшуквае апавядальніка, не зважаючы на метэаўмовы — і ў трыццаціградуснай спёцы ("Душанбэ"), і пасярод пяцідзесяціградуснага сургуцкага марозу ("Падарунак"). Творы гэтага раздзела неяк самі сабой складваюцца ў персаніфікаваны "атлас роднасці": амаль ва ўсіх вандроўках

*Гальпяровіч, Н. Я. На трапяткім агні: навелы, эсэ, публіцыстыка / Навум Гальпяровіч. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2012. — 160 с.*

апавядальніку сустракаюцца землякі з Беларусі, з абдоймаў якіх немагчыма "ўцячы" без падарункаў: гэта можа быць мех вэнджанай рыбы ("Зямляк"), цудоўнае бадзянне па ўсходнім горадзе (бонус — вызваленне з палону хамячка на рынку ў "Душанбэ") ці проста ўсмешка. Нават там, дзе не здараецца землякоў, харошыя людзі ("Маскоўскія канікулы", "Казакі пад Варнай") нейкім натуральным чынам "абеларушваюцца", пашыраючы для вандроўніка межы Беларусі як атлантыды роднасці. Далікатнасць як стратэгічны для аўтара прынцып "прамаўлення" свету па вызначэнні не дазваляе чакаць ад "Шляхоў і вяртанняў" напышлівых геаграфічных агледзін уласнай біяграфіі. Гэтаксама ў раздзеле "Адлюстраванні", дзе ў плынь "безназоўных" запісаў уплецены міні-партрэты, не зладзіш экскурсію па кузні, што спецыялізуецца на "перакоўцы" сучАснікаў у сУчаснікаў. Да ўсяго, аўтар прынцыпова не ранжыруе сваіх герояў, з узнёслай далікатнасцю настойваючы на самадастатковасці і "незаменнасці" ў ягоным асобасным лёсе кожнага: літаратараў ("Сапажкоў", "Пятро Васючэнка", "Андрэй Федарэнка" і інш.), журналістаў (мініяцюра "Літаратурны журналіст" прысвечана Галіне Шаблінскай), нястомных рупліўцаў беларускага мастацкага кнігавыдання ("Кніганошы"), сябра дзяцінства ("Дзядзька Том"). Цікава, што побач з людзьмі ў гэтай партрэтнай галерэі надзвычай арганічна ўспрымаецца яшчэ адзін "персанаж" — Дом радыё ("Мінск, Чырвоная, 4...") з эсэізавана-публіцыстычнай оды прафесіі "І вечнасць хай сюжэт запіша наш".

"Каханне — не юрыдычны тэрмін", — заўважае апавядальнік аднаго з твораў ("Неюрыдычны тэрмін") Н. Гальпяровіча. Далікатнасць — не прысуд... і не панацэя ад датклівых, балючых стасункаў не толькі са светам рэчаў, але і з сусветам словавобразаў. Дарэчы, словы паводзяць сябе ў дачыненні да пісьменніка таксама "далікатна", адзінкавыя іх "выхады з-за печкі" ў кнізе "На трапяткім агні" падаюцца сапраўднымі падзеямі: "Сяргей Сцяпанавіч (Панізнік. — **І. Ш.**) запэўніваў, што піндзюкі — грыбы абсалютна з'ядобныя..." ("Пятро Васючэнка").

Адчужанасць у дачыненні да літаратуры па сур'ёзнасці наступстваў роўная для Н. Гальпяровіча катастрофе адчужэння ад самога зместу жыцця: "...у душы ад гэтага пустата і скруха, як ад страчанага кахання" ("Адлюстраванні"). Але ён не імкнецца раздзяліць адказнасць за гэтую катастрофу ў адпаведнасці з рэестрам — якім-небудзь "імянным паказальнікам" заклятых сяброў ці лепшых ворагаў. Тым самым у чарговы раз ігнаруе зручную нагоду актуалізавацца ў найноўшай літпрасторы — а хоць бы ў спісе палымяных выкрывальнікаў, "санітараў прыгожага пісьменства". Такая контрпрадуктыўная па сённяшнім часе далікатнасць...

# Цэласна і глыбока

**Вызначаючы вартасць манаграфіі вядомага беларускага літаратуразнаўцы, доктара філалагічных навук Івана Саверчанкі "Паэтыка і семіётыка публіцыстычнай літаратуры Беларусі XVI — XVII ст.", варта сказаць, што ў ёй грунтоўна паказаны генезіс, паэтыка і семіётыка старабеларускага публіцыстычнага дыскурсу, выяўлены асноўныя структурна-кампазіцыйныя кампаненты публіцыстычных твораў XVI — XVII стст., праведзена тыпалогія тропаў, фігур, рытмікі, разгледжана іх семантычная і функцыянальная разнастайнасць. Вызначаныя грамадска-палітычныя ідэалы і духоўна-маральныя каштоўнасці нашага народа, выяўленыя ў публіцыстычнай літаратуры XVI — XVII стст.**

Тацціяна КАЗАКОВА

Даследчык лагічна акцэнтуе ўвагу на асноўных тэндэнцыях Рэнесансу і Барока — ключавых перыядаў у развіцці даўняй беларускай культуры і літаратуры, калі на нашых землях творча працавалі яркія інтэлектуалы: Францыск Скарына, Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Стэфан і Лаўрэнцій Зізаніі, Леў Сапега, Іпацій Пацей, Лявонцій Карповіч, Мялецій Сматрыцкі, Іасафат Кунцэвіч, Іосіф Вельямін-Руцкі, Андрэй Мужылоўскі, Афанасій Філіповіч, Сільвестр Косаў, Кірыла Транквіліён-Стаўравецкі.

Універсальная дасведчанасць вучонага дазваляе яму свабодна спалучаць дыяхранічны і сінхранічны кантэкст. Пры аналізе публіцыстычнага дыскурсу ён выкарыстоўвае структурна-апісальны, гісторыка-генетычны, параўнальна-гістарычны, параўнальна-тыпалагічны, структурна-функцыянальны метады даследавання. Уважліва і карэктна выкарыстаныя тэарэтычныя напрацоўкі вядомых літаратуразнаўцаў — С. Аверынцава, Д. Ліхачова, Ю. Лотмана, А. Яскевіча і інш.

У манаграфіі грунтоўна паказаныя метадалогія і прынцыпы асэнсавання публіцыстыкі ў беларускай філалагічнай навуцы, акцэнтаваная ўвага на праблемах вывучэння старабеларускай публіцыстычнай літаратуры, акрэсленыя найбольш значныя тэарэтычныя працы пачынаючы ад даследаванняў XIX ст. (А. Архангельскага, М. Каяловіча, Макарыя і інш.). Адзначаныя працы Я. Карскага, М. Гарэцкага, А. Коршунава і сучасных беларускіх навукоўцаў. І. Саверчанка паказаў прыярытэтныя аспекты аналізу публіцыстычных твораў — жанравыя формы і тыпы дыскурсу публіцыстычнай літаратуры Беларусі XVI — XVII ст., тэматыку, праблематыку, структурна-кампазіцыйныя дамінанты і вызначальныя кампаненты, сістэму мастацка-выяўленчых сродкаў як базавых мікраэлементаў публіцыстычных твораў.

Даследчык лагічна вызначыў асноўныя крытэрыі, паводле якіх тэкст можна




аднесці да палемічнага жанру: непасрэднае аўтарскае ўказанне на тое, што твор напісаны з мэтай аспрэчыць "памылковыя" погляды і сцвярджэнні, а таксама практычная рэалізацыя творчай задумы пісьменніка.

У звязку з гэтым паказана ўнутраная мастацкая логіка палемічных трактатаў: тэзіс апанента і яго аргументацыя, аспрэчванне кожнага аргумента і высновы; "прывітальны" тэзіс, сістэма доказаў у яго абарону і агульная выснова.

Асаблівую цікавасць выклікаў разгляд сінкрэтычных дыскурсаў у творах, якія спалучаюць публіцыстычна-палемічныя і эпічна-белетрыстычныя элементы ("Апісанне Сабора ў Еўі 1568 г." С. Буднага, "Справядлівае апісанне ўчынку і справы сінодавай і абароны здзейсненай згоды і лучнасці, якія сталіся на Сінодзе Берасцейскім у 1596 г." І. Пацея і інш.).

Абгрунтавана гучыць выснова вучонага пра тое, што ключавой тэмай публіцыстычнай літаратуры Беларусі XVI — XVII ст. з'яўляюцца грамадскія ідэалы,

*Саверчанка, І. В. Паэтыка і семіётыка публіцыстычнай літаратуры Беларусі XVI — XVII стст. / Іван Саверчанка — Мінск: Беларуская навука, 2012. — 463 с.*

сутнаснае напаўненне галоўных катэгорый этыкі "дабро", "ліха", "грахі", "ідэал". Хрысціянскія пісьменнікі-публіцысты Вялікага Княства Літоўскага вылучалі чатыры "фундаментальныя цноты": мудрасць, справядлівасць, мужнасць і міласць. "У творчасці публіцыстаў XVI — XVII ст. адбылося глыбіннае спалучэнне біблейска-хрысціянскіх антрапалагічных уяўленняў і норм маралі з традыцыйнай народнай этыкай", — заключае даследчык.

Вызначыўшы філалагічную канцэпцыю Ф. Скарыны (існаванне шматлікіх моў асветнік лічыў не Божым пакараннем, а найважнейшым здабыткам цывілізацыі), навуковец паказаў дзейнасць вядомага палітычнага дзеяча, мецэната і фундатара Заблудаўскай друкарні Рыгора Хадкевіча, які практычна ажыццяўляў ідэю масавага пашырэння "кніжнай мудрасці".

Аргументавана гучыць выснова І. Саверчанкі адносна таго, што "вызначальнай рысай публіцыстычнай літаратуры Беларусі XVI — XVII ст. стала патрыятычная тэматыка, змаганне з русіфікатарскімі тэндэнцыямі і каланізацыйнымі праявамі, абарона этнічнай і духоўна-культурнай самабытнасці беларусаў".

Пры аналізе структурна-кампазіцыйных дамінантаў публіцыстычнага дыскурсу звернута ўвага на распаўсюджаны ў творах беларускіх публіцыстаў XVI — XVII ст. такі тып аргументаў як прыклад — у форме сціслай гістарычнай даведкі, разгорнутага белетрызаванага аповеду, навелы, сюжэтнай устаўкі, эпічнага кампанента. Цікавыя прыклады з гісторыі прыведзены ў творах І. Пацея і А. Мужылоўскага.

І. Саверчанка грунтоўна прааналізаваў адзін з найважнейшых сродкаў вобразнага адлюстравання і пазнання свету, які ўзбагачае літаратурны тэкст новымі сэнсавымі нюансамі, — тропы. Пільная ўвага звернута на недастаткова распрацаваны аспект у паэтыцы старабеларускага публіцыстычнага дыскурсу — ролю ўстойлівых словазлучэнняў, прымавак і прыказак у творах І. Пацея. Аргументавана гучыць выснова даследчыка адносна таго, што ў публіцыстычным дыскурсе фраземы выконвалі функцыю "эмацыйнага аргумента".

Упершыню ў беларускім літаратуразнаўстве І. Саверчанка прааналізаваў рытмічную арганізаванасць публіцыстычнай літаратуры XVI — XVII ст. На прыкладзе твораў І. Пацея, Л. Зізанія зроблена выснова пра тое, што "наяўнасць рытмізаванай прозы — паказчык высокага прафесіяналізму майстроў слова, сведчанне высокага мастацка-эстэтычнага густу пісьменнікаў-публіцыстаў Беларусі".

Высокая філалагічная дасведчанасць пры аналізе паэтыкі і семіётыкі публіцыстычнай літаратуры Беларусі XVI — XVII ст. дазволілі вучонаму акрэсліць менталітэт беларускага народа, закрануць праблему сусветных духоўна-культурных каштоўнасцей і паказаць творчую індывідуальнасць беларускіх публіцыстаў.

Даследаванне І. Саверчанкі — цэласнае па задуме і глыбокае па распрацоўцы складаных тэарэтычных пытанняў. Аўтар арганічна спалучае шырокі погляд на гісторыю беларускай літаратуры з выкарыстаннем вялікага канкрэтнага матэрыялу, што дазваляе яму стварыць канцэпцыю духоўнага багацця нашага народа. Выснова вучонага гучыць выразна і пераканаўча: "Невымерная заслуга беларускіх пісьменнікаў XVI — XVII ст. у тым, што яны на старонках публіцыстычных твораў выразна сфармулявалі галоўны прынцып развіцця філалагічнай навукі, вызначылі асноўныя напрамкі ўзбагачэння кніжна-пісьмовай культуры, дакладна акрэслілі гістарычна перспектыўныя тэндэнцыі пашырэння асветы і адукацыі". У манаграфіі паказана цесная сувязь публіцыстычнага пісьменства з навуковым дыскурсам, таму даследаванне цікавае для філолагаў, гісторыкаў, філосафаў і культуролагаў.

# Мост у былую эпоху

**З самага свайго пачатку старажытнабеларуская літаратура адпавядала інтарэсам Кіеўскай Русі, якая імкліва развівалася і стала эпіцэнтрам рознага кшталту палітычных, эканамічных, сацыяльных падзей. Падобная тэндэнцыйнасць у адлюстраванні тагачаснага жыцця, найбольш злабадзённых яго праблем патрабавала аператыўнасці і ўніверсальнасці. Акрамя таго, яна агаліла праблему неадпаведнасці жанравых форм літаратуры пастаўленым перад ёй задачам.**

Алесь БАРАНОЎСКІ

Зварот да старажытнай беларускай літаратуры сёння — гэта не толькі спроба расшыфраваць таямніцы забытай эпохі, ён, на думку Івана Васільевіча Саверчанкі, аўтара кнігі «Паэтыка і семіётыка публіцыстычнай літаратуры Беларусі XVI — XVII стст.», «выключна важны ў метадалагічным плане, бо цэласнасць і поўная завершанасць літаратуразнаўчай навукі прадугледжваюць і аб'ектыўна вымагаюць панавання прынцыпу ўніверсалізму, уліку ўсіх кампанентаў прадмета вывучэння, галоўных унутраных змен, што адбываліся ў часе, істотных знешніх праяў, спектра ўзаемадзеянняў».

Найбольш гэтыя ўзаемадзеянні і змены ўвабрала ў сябе менавіта публіцыстычная літаратура, бо ўздымала вострыя, праблемныя сацыяльна-палітычныя пытанні.

Традыцыйна публіцыстычныя жанры прынята падзяляць на інфармацыйныя, аналітычныя і мастацка-публіцыстычныя. А сама палемічная і публіцыстычная літаратура ў шырокім сэнсе — сукупнасць прамоў аратараў і філосафаў, словаў «у гонар...», лістоў публіцыстычнага зместу. Відавочна, падобная класіфікацыя не можа ў поўным аб'ёме быць выкарыстана пры характарыстыцы літаратуры XVI — XVII стст.

Так, межы паміж публіцыстычнымі жанрамі ў азначаны перыяд былі даволі хісткімі, а тэмы, пакладзеныя ў аснову многіх твораў, дыктаваліся сацыяльна-палітычнымі і эканамічнымі ўмовамі. Іван Васільевіч прапануе адрозніваць наступныя жанравыя катэгорыі публіцыстычнай літаратуры XVI — XVII стст.: палемічныя творы; аналітычныя і экзегетычныя трактаты; урачыстыя казанні, катэхізісы і дыдаскаліі (прапаведзь-павучанне); сінкрэтычныя дыскурсы.

Няцяжка заўважыць, што асноватворчым складнікам публіцыстычнай літаратуры XVI — XVII стст. стала рэлігія. Так, экзегетыка — раздзел багаслоўя, у якім тлумачацца біблейскія тэксты; вучэнне пра вытлумачэнне тэкстаў, пераважна старажытных, першапачатковы сэнс якіх прыцемнены з прычыны іх даўнасці ці недастатковай захаванасці крыніц. Дыдаскалія — прапаведзь-павучанне. Катэхізіс — афіцыйны вераспавядальны дакумент якой-небудзь канфесіі, кніга, якая змяшчае асноўныя пастулаты хрысціянскага (не абавязкова) веравучэння, часта выкладзеныя ў выглядзе пытанняў і адказаў.

Паглыбленая ўвага навукоўца да палемічнай літаратуры канца XVI — першай паловы XVII ст. тлумачыцца тым, што гэта пласт публіцыстычнай літаратуры Беларусі, які стаў адказам на абвастрэнне рэлігійнай барацьбы канца XVI ст., своеасаблівы феномен інтэлектуальнага жыцця Усходняй Еўропы.

Пад палемічнай літаратурай аўтар разумее сукупнасць мастацка-публіцыстычных твораў, якія былі напісаныя ў форме царкоўна-гістарычных трактатаў, адкрытых лістоў, пасланняў. Палемічныя творы ў той час нярэдка выходзілі за межы царкоўных спрэчак, багаслоўскіх дыскусій. У іх выразна праступаюць выкрывальныя рысы, больш яскрава афармляецца голас палеміста ў абарону прыгнечанага насельніцтва.

Пакора перад прыродай, усведамленне нетрываласці светабудовы старажытнага перыяду супрацьстаіць пошуку ўласнага месца на зямлі, чалавечага прызначэння перыяду XVI — XVII стст. Нездарма тэматычны аспект публіцыстычнай літаратуры ў азначаны час разглядаецца навукоўцам у тым ліку і ў святле антрапацэнтрызму.

Публіцыстычная літаратура адыграла станоўчую ролю ў гісторыі. На працягу больш як паўстагоддзя яна карысталася вялікай папулярнасцю, была зброяй у вострай ідэалагічнай барацьбе, забяспечвала дыялог паміж рознымі сацыяльнымі групамі. Кніга Івана Саверчанкі «Паэтыка і семіётыка публіцыстычнай літаратуры Беларусі XVI — XVII стст.» — мост у былую эпоху, спроба праліць святло на цьмяныя бакі гісторыі літаратуразнаўчай навукі.

## Соф'я ШАХ



***

*Ці снежань, ці студзень, ці люты,*
*а вулка — улонне святла,*
*хоць дол, пэўна, сцюжаю скуты,*
*хоць зімачка ў сілу ўвайшла.*

*А колер нябёсаў — нябесны,*
*і нейк летуценна амаль,*
*нібы да ўзбярэжжаў да весніх,*
*плывуць аблачыначкі ў даль.*

*А дрэвы ўрачыстасць — няйначай! —*
*святкуюць у гэтакі дзень,*
*і сілаю пераканаўчай,*
*здаецца, зіхціць кожны цень.*

*Праменіцца, пушыцца іней...*
*І як не дзівіцца, калі*
*сама ўжо зямля — у вышынях,*
*а высі ўжо скрозь — на зямлі.*

***

*Ліпа мая, ліпа,*
*дзе была сядзіба,*
*там і ты стаяла, —*
*месца не займала.*

*Ты ў вятрах шумела,*
*ты ў снягах бялела,*
*ты лісцё губляла, —*
*без яго маўчала.*

*Ды штогод, штолецце*
*прыгажэла ў квеце,*
*ды заўжды ваколле*
*аздабляла голлем.*

*І была высокай,*
*і была шырокай,*
*і была магутнай,*
*існа жыццялюбнай.*

*Дзе ты зараз, ліпа?*
*Там, дзе і сядзіба?*
*Замест вас у явы —*
*травы, травы...*

***

*Зараслі тут нашы вёсны,*
*зараслі тут нашы леты,*
*утравелі мары-крозы,*
*утравелі скрухі-беды.*

*Утапталіся былыя*
*ўсе дзіцячыя гадочкі —*
*дні-дзянькі ўсё скрозь даўгія,*
*некароценькія ночкі.*

*Зоры-промні, промні-зоры, —*
*столькі золата і срэбра*
*умяшчаў, не ведаў зморы*
*мілы сажалкавы бераг.*

*Хто цяпер дакладна скажа,*
*што была пара такая?!.*
*Зарасло маленства наша.*
*Зарасло... і зарастае...*

***

*Прамчалі дзясяткі гадоў з тых часін,*
*прамчалі, мінулі з запалам,*
*а вось жа між іншых лясецкіх хацін*
*бабуліну хату пазнала.*

*Успомніла памяццю прагнай душы,*
*напружана ўзрушаным зрокам,*
*сышоўшы з шумлівай, гудлівай шашы*
*да матчыных ціхіх вытокаў.*

*Ну вось яно, селішча, спраўна куды*
*малечай з Азарыч хадзіла...*
*Ігрушы ўсё тыя ж і нават кусты,*
*што баба за векам садзіла.*

*І вокны, і дзверы ўсё тыя ж, і двор,*
*і стопка, і хлеў усё той жа,*
*а там — агарод,*
*а за ім — шыр-прастор, —*
*разлеглае далі раскоша.*

*І сонца такое ж, і колер нябёс,*
*аблокі — і ніжай, і вышай...*
*А двор бадыллём, агарод ім зарос,*
*усё зарасло вечнай цішай.*

***

*А па-над Вішай, па-над Вішай*
*блакіт-сінечу дзень калыша,*
*блакіт-сінеча —*
*аж пад небасхіл,*
*дзе аблачыны —*
*падабенства крыл.*

*Блакіт-сінеча злева, справа*
*варожыць на ільне рухава,*
*блакіт-сінечы поўна*
*паміж хваль,*
*што неўтаймоўна*
*мкнуцца ў сінядаль.*

*Такое ці было ў маленстве,*
*ці гэта ўзнікла ў летуценстве?*
*Ці гэта сну зачараваны спрыт*
*сам трапіў нечакана*
*ў сінь-блакіт?*

*Але цячэ рачулка Віша*
*і хвалямі сінечу піша,*
*і так блакіціць-сініць белы свет,*
*што стаў нябесным і душы імпэт.*



*Фота Кастуся Дробава*

## Алесь КАРАНЕЎСКІ



***

*Нядоўгі снег з калматай хмары*
*Рассеяў з комінаў дымы,*
*Пакрыў зямлю і тратуары,*
*Як белы ўздых былой зімы.*

*І сёння стала сном мінулым,*
*Памаладзіла твар і час,*
*Старонку зноў перагарнула*
*Туды, дзе ўжо не бачна нас...*

***

*Ласкаю нясмелай сыпкі снег*
*Каруселлю белай затуманіў свет,*

*Запыліў чароўна вакаём*
*Сумятнёй калючай, мройным сном..*

*Весткай спешнай шчыра ў далягляд*
*Зрушыў прагу ісцін снегапад!*

*І якою верай зразумець*
*Першы цуд мяцеліцы ў зіме!*

***

*Снег апусціўся, як збаўленне,*
*Як мілата, як новы лёс.*
*І вецце прыняло з'яўленне,*
*Якое новы дзень прынёс.*

*А неба — каляровым спектрам,*
*І поле — белае зусім!*
*І на пагорках лёгкім ветрам*
*Пыліцца казачны кілім!*

***

Пагляджу ў твае сумныя вочы...
**Алесь Бадак**

*Не сумуй, мая лотаць,*
*У стаўку адзіноты.*
*Мы ідзём з табой побач*
*У кружэнні самотным.*

*Што глядзіш так тужліва*
*І аб чым ты сумуеш?*
*У сінечы маўклівай*
*Што цябе зноў хвалюе?*

*У жыцці хуткабежным*
*Усяго не хапала,*
*Ды і сёння належнай*
*Рэчаіснасці мала,*

*Дзе трымценне ўзыходу*
*З відавочнасцю вольнай*
*Мае нейкую згоду*
*З павалокай сезоннай.*

*Яркіх фарбаў замала?*
*Што табе там прысніцца?*
*Ты, жаночая мара, —*
*Як душы таямніца!*

*Светлай ласкай малюю*
*Калыханку бязмоўна...*
*Ранкам бачыць хачу я*
*Зноў блакіт твой чароўны.*

***

*Дзіўны ранак!.. Мароз!..*
*Ружаў квецень на небе!*
*Вецце клёнаў, бяроз —*
*Нібы ў бэзавай пене!*

*Льюць з вусатых ствалоў*
*Цені крэпавай сінню!*
*На разлогах лясоў*
*Сходы скручаных ліній!*

*І дымкі з белых стрэх*
*Дзесь губляюцца ў сцюжы,*
*Быццам хочуць сагрэць*
*Зледзянелыя ружы!*

## Сяргей ДАВІДОВІЧ



## Харaство

*Вечар зноў прахалоду прынёс,*
*Туманы да ракі паплылі.*
*І здаецца, што фарбы нябёс*
*Раптам сталі бліжэй да зямлі.*

*І сціскацца пачаў далягляд*
*Да акругласці веліч-шатра.*
*Хутка ноч і густы зоркапад —*
*Залатая ўлюбёных пара.*

*Сэрца, поўнае казачных мрой,*
*Прывітае жыццё і вясну.*
*Прачынаецца дзіўны настрой,*
*А зямля адыходзіць да сну.*

*Вунь да месяца дуб-хмарачос*
*Прагна цягнецца голлем сваім.*
*Дзе ні глянь — непаўторнасць дзівос,*
*Харaство — не нацешыцца ім.*

## Каюся!

*Божа любы! Божа правы!*
*Ты стварыў жыццё — не мёд,*
*І таму даруй забавы*
*Маладых і грэшных год.*

*Час шчаслівы — час імклівы,*
*Як маланка, як дакор:*
*Перагулы, пералівы,*
*Многіх "пера" — перабор.*

*І блюзнерыў я нярэдка,*
*Цмокаў дзевак — ад душы.*
*Ты б цішком мяне, без сведкаў*
*Ушчуваў бы: — Не грашы!*

*Ты б хоць раз мне ў вуха шмягнуў,*
*Што казаць — было за што.*
*Ты маўчаў — і я працягваў*
*Калаўроціць на ўсе сто.*

*Сёння іншы я, набожны,*
*Бог такіх не абміне...*
*Але грэшны дзень той кожны*
*Ўсё ж прыемна ўспомніць мне.*

## Пра юбілеі

*Ёсць адмеціны,*
*міма якіх не прайсці,*
*Нам нязменна нясуць —*
*віншаванні, жаданні, парады...*
*Юбілеі, як цені,*
*за кожным брыдуць па жыцці,*
*Большасць прагне пахвал,*
*а хтось ім не рады.*

*Я свае юбілеі даўно неўзлюбіў,*
*Слухаць мне трафарэтчыну — кара...*
*Пра нябожчыка добрае кажуць,*
*які б ён ні быў,*
*Тое ж самае кажуць*
*і пра юбіляра.*

Гомельскі празаік Іван Лосікаў — член Саюза пісьменнікаў Беларусі. Ён з'яўляецца аўтарам кніг "Чалавек з мінулага", "Рэха дзяцінства", "Аповесць пра каханне", "Бандэроль са сшыткамі" і іншых. Нядаўна пісьменнік скончыў працу над аповесцю "Два імені", у якой расказвае пра адносіны чалавека да прыроды, і ў першую чаргу — да жывёльнага свету. Яго хвалюе не толькі будучае герояў, але і будучае зямлі, на якой яны жывуць. Прапануем увазе чытачоў урывак з аповесці.



Іван ЛОСІКАЎ

# Калі збываюцца мары…

Паездкай у горад Дзяніс Герасімавіч Кудраш быў, можна сказаць, задаволены: ён выканаў усе даручэнні сваёй жонкі, за выключэннем аднаго: не хапіла часу — каб паспець яшчэ на аўтобус! — не купіў проса, а яго дзеці, як, зрэшты, і ён сам, вельмі ўжо любілі прасяную кашу.

Але не пакупкі, не сама паездка яго цешылі, а тое, што ён набыў нарэшце шчанюка добрай пароды. А знаёмства з гаспадаром сабакі адбылося наступным чынам. У адзін пагодлівы летні дзень пасвіў Дзяніс Герасімавіч са сваім старэйшым сынам Рыгоркам, хлапчуком дванаццаці гадоў, саўгасны статак кароў. На пясчаным, стромкім беразе ракі ў атачэнні дубоў ён убачыў блакітную іншамарку і побач з ёй — палатку. Непадалёк ад палаткі было раскладзена цяпельца, каля якога завіхаліся дзве жанчыны. Адлегласць паміж ім і жанчынамі была невялікая, і Дзяніс Герасімавіч добра бачыў, што адна з іх была дамай сярэдніх гадоў, а другая — дзяўчынка-падлетак. І ўвесь час, пакуль каровы прагна пілі з ракі, а напіўшыся, уладкоўваліся на кароткі летні спачын, Дзяніс Герасімавіч раз-пораз паглядаў на незнаёмых людзей. Крыху воддаль ад вогнішча сядзеў сабака, і збоку здавалася, нібы той пільна прыслухоўваўся да гамонкі жанчын і спрабаваў нават нешта зразумець: ён тырчком трымаў вушы і не зводзіў з людзей позірку, а іншы раз нават ківаў галавой, усё роўна як пагаджаючыся з пачутым.

— Рыгорка, — звярнуўся Дзяніс Герасімавіч да сына, — ты толькі зірні, які сабака!

— Сапраўды, прыгожы, — у сына таксама, як хвілінамі раней у бацькі, загарэліся вочы. — Нам бы такога!

Дзяніс Герасімавіч хмыкнуў, пакруціў галавой:

— Марыць, сынку, не шкодна…

У гэты час дзяўчынка адбеглася ад вогнішча, спынілася на стромкім беразе і памахала некаму рукой, а потым паклікала:

— Тата! Абедаць!..

Толькі цяпер Дзяніс Герасімавіч, калі ўважлівей прыгледзеўся, убачыў за выспай, непадалёк ад берага, гумавую лодку, а ў ёй мужчыну з вудай. Паглядзеў на сына, сказаў:

— Бацька, напэўна. Не могуць жа без гаспадара жанчыны адны заехаць у нашу глухмень. Добра, Рыгорка, не будзем людзям перашкаджаць сваімі назойлівымі позіркамі. Хадзем самі для сябе абед рыхтаваць. Пакуль каровы адпачываюць. Збірай якое ламачча ды разводзь таксама цяпельца, наварым бульбачкі… А сабака, не, ты глянь, які цудоўны!..

Пакуль Рыгорка разводзіў вогнішча, яго бацька абіраў бульбу і раз-пораз азіраўся на людзей, пра якіх нічога, канечне ж, не ведаў, а толькі здагадваўся, што яны гарадскія, а больш глядзеў на сабаку. І яму захацелася пазнаёміцца з чужымі людзьмі, падысці да іх, толькі як гэта зрабіць — не ведаў. І раптам прыйшло рашэнне: у іх жа павінна быць соль. Ёсць яна і ў яго, Дзяніса Герасімавіча, але лепшай прычыны, каб пазнаёміцца з імі, ён не мог прыдумаць. "Так і зраблю!" — вырашыў ён і ўбачыў, што да жанчын падышоў мужчына з вудай, ён падняў над сабой руку з рыбай у металічнай сетцы, чым выклікаў ажыўленне каля вогнішча. Нават сабака стараўся даскочыць да рыбы, але гаспадар, блазнуючы, усяляк стараўся абхітрыць яго.

Пасля абеду мужчына чытаў газету, седзячы пад разлапістым дубам, жонка — канечне ж, гэта яна — загарала на сонейку, а дзяўчынка гуляла з сабакам. Якія каманды яна падавала яму, пастухі пачуць не маглі, але добра бачылі, як той паслухмяна іх выконваў. Ён прыносіў рэчы, якія кідала дзяўчынка, поўзаў на жываце, скакаў праз збудаваную для яго перашкоду, аднойчы нават скочыў у раку, вылавіў палку, якую кінула дзяўчынка, і, шчаслівы, прынёс на бераг: калі ласка!

Калі Дзяніс Герасімавіч глядзеў на ўсё гэта, выгляд у яго быў такі, нібы ён сядзеў у цырку, а Рыгорка знаходзіўся на сёмым небе ад убачанага.

— Давай і мы набудзем сабе такога сабаку, — прапанаваў хлопчык.

— Я не супраць, — ахвотна пагадзіўся бацька. — Давай. Але дзе?

Яны абедалі і марылі пра той час, калі набудуць сабаку — лепш, канечне, такога, што вунь забаўляецца на беразе ракі з дзяўчынкай. Раней у іх быў Жук, але не ўбярогся — пагнаўся за аўтамашынай і трапіў пад колы. Рыгорка тады моцна плакаў. Слёзы былі і на вачах у Дзяніса Герасімавіча, толькі ён стараўся нікому свайго жалю не паказваць. І вось ужо колькі тыдняў няма ў іх сабакі, надзейнага памочніка ў пастуховай справе і вернага сябра. А пасвіць кароў без сабакі, пагадзіцеся, цяжкавата.

— Прыйдзецца табе, тата, у горад з'ездзіць, там ёсць гадавальнікі, якія сабак разводзяць, я сам чытаў у газеце, — прыгадаў Рыгорка і паглядзеў на бацьку: што ён, цікава, скажа на гэта?

Дзяніс Герасімавіч хітравата ўсміхнуўся, затрымаў на сыне погляд:

— Можна падумаць, што ў мяне час ёсць у той горад ехаць. Гэта каб хоць напарнік, Анатоль Трафімавіч, хутчэй паправіўся… На цябе ж аднаго я статак не кіну.

Рыгорка пагадзіўся:

— Гэта так… Не кінеш… І маме няма часу дапамагчы — ёй сваю групу кароў даіць трэба.

— Ды і не так проста ў тым горадзе выбраць будзе добрага сабачку, адчуваю, — разважаў Дзяніс Герасімавіч. — Абдурыць могуць гарадскія. Там хлопцы хваты. Зухі хлопцы. Там, мусіць, і чакаюць такіх разявак.

Рыгорка ўздыхнуў:

— Эх, быў бы я дарослым! Я б сам у горад з'ездзіў, я б сам ажыццявіў нашу, тата, агульную мару — прывёз бы сабаку. Знайшоў бы тое таварыства, дзе яны ёсць. Абавязкова. А так што паробіш? — Ён развёў рукамі. — Пад ляжачы камень вада не цячэ…

Бацька пагразіў сыну пальцам:

— Ты гэта перастань папрокі ў мой адрас кідаць. Перастань. Прыдумаем што-небудзь. Не хвалюйся. Хіба мы зломкі якія? Прыдумаем, сын…

Бацька і сын яшчэ б, відаць, доўга гаварылі пра тое, што іх асабліва хвалявала на той час, аднак яны амаль адначасова заўважылі, што да іх ідзе мужчына з сабакам. Незнаёмец быў апрануты ў кароткія штонікі, а яго галаву хаваў ад сонца белы капялюшык.

Дзяніс Герасімавіч пражыў на гэтым свеце без малога сорак год, шмат чаго пабачыў, аднак тых людзей, якія насілі такія кароткія штонікі, ён лічыў бессаромнікамі і нахабнікамі. Вось і цяпер, убачыўшы незнаёмага чалавека, які павольна, але ўпэўнена набліжаўся да іх, ён з незадавальненнем падумаў: «Ідзе як да сваёй кумы ў госці. Ох ужо гэтыя гарадскія!.. Ну як гэта можна падыходзіць да незнаёмых людзей у такіх кароткіх штанцах? Ужо б у адных майтках шыбаваў… А якая розніца паміж гэтымі штонікамі і майткамі? Ні сораму няма ў чалавека, відаць, ні сумлення. І што ж яму ўсёткі ад нас трэба? Бач, крочыць, як быццам яму тут і рады… Хаця — а чаму ж? Гэта, пэўна, і добра, што так атрымалася. Не трэба самому ісці да іх быццам бы солі прасіць…» Незнаёмы ж чалавек, адчуваючы ў сабе ўпэўненасць, падышоў да пастухоў і даволі ветліва павітаўся. Сабака стаяў побач і зрэдчас ціхенька скуголіў, паглядаючы пачаргова то на Рыгорку, то на Дзяніса Герасімавіча.

— Не бойцеся, ён добры, — паглядзеў на сабаку мужчына.

Дзяніс Герасімавіч у знак згоды ківнуў:

— Бачу, бачу. Па справе да нас ці як?

Мужчына прызнаўся:

— Па справе, хутчэй за ўсё. Хацеў пацікавіцца, дзе можна накапаць дажджавых чарвякоў?

— О, гэтае мерапрыемства мой хлопец вам арганізуе. Як рыбка — ловіцца?

— Не так каб вельмі ўжо добра, але аднаго язя на кілаграм усё ж падчапіў... Некалькі плотачак узяў… Юшка будзе! — мужчына зарагатаў.

Дзяніс Герасімавіч адчуў, што чалавек ён просты, свой, адным словам, таму палічыў патрэбным падказаць мясціны, дзе найбольш удала клюе. Мужчына падзякаваў. Потым яны паскардзіліся адзін аднаму, што рака ў некаторых месцах даволі брудная, часта трапляюцца там на люстраной роўнядзі плямы ад бензіну альбо саляркі. Адкуль усё гэта бярэцца? Ці не ад такіх вунь легкавікоў, што стаіць непадалёк? Магчыма, магчыма… Толькі ж мужчына пастараўся адвесці ад сябе папрок, пахваліўся, што ніводнага разу не мыў сваю машыну нават і воддаль ад ракі. Не ўберажэшся, калі блізка... А вось прыкурыць гарадскім прадпрыемствам і самім рачнікам, якія, на ягоную думку, найбольш вінаватыя ў забруджванні вады, даў.

— Мяне Юрыем Барысавічам зваць, — прадставіўся нарэшце мужчына і падаў руку Дзянісу Герасімавічу: апошні ахвотна назваўся.

— А я Рыгорка.

— Вельмі прыемна…

— Юрый Барысавіч, гэта якой жа пароды ваш сабака? Ужо вельмі, на мой погляд, ён інтэлігентны... Прыгожы, хоць карціну з яго пішы. У нас у вёсцы такіх ніколі не было. Здаецца, па тэлевізары ў кіно яго бачыў. Не памыляюся?

— "Лэсі" кіно называецца, — падказаў Рыгорка.

— Не памыляецеся вы абодва. Гэта шатландская аўчарка — колі. Сабакі гэтай пароды сапраўды, як вы заўважылі, інтэлігенты ў нейкім сэнсе. Ведаюць, каго, дзе і як можна ўкусіць. І — за што. Да таго ж, яны і дрэсіроўцы паддаюцца добра.

— Ды мне сабака патрэбны не для забавы, а для справы. Дапамагаць пасвіць кароў аўчарку можна навучыць?

Спытаўшы ў Юрыя Барысавіча пра гэта, Дзяніс Герасімавіч стаў так зацікаўлена прыглядацца да сабакі, нібы той прадаваўся, а ён меў намер купіць яго.

Сабака быў малады і прыгожы. Яго разумныя вочы глядзелі на свет са здзіўленнем і захапленнем. Ды гэта было, зрэшты, і не дзіўна: ён быў — хіба ж не відаць — здаровы і фізічна моцны, элегантны на выгляд. Яго белая поўсць, пакрытая на самых відных месцах — спіне, грудзях і лапах — плямамі колеру арэхавага дрэва, была дагледжаная і чыстая, галаву ён трымаў з уласцівым толькі яму гонарам, на гаспадара і Дзяніса Герасімавіча з Рыгоркам глядзеў так, нібы быў цалкам ад іх незалежны.

Юрый Барысавіч, сабраўшыся, адказаў нарэшце свайму субяседніку:

— Я чуў — бачыць самому не прыходзілася, хлусіць не буду — што сабак гэтай пароды чабаны выкарыстоўваюць у якасці сваіх памагатых. І за атары авечак не баяцца. Пасвіць кароў такога сабаку таксама, мне думаецца, можна навучыць. Без грубіянства, гвалту, вядома...

— Гэта мы разумеем... Грубіянствам не навучыш... — Дзяніс Герасімавіч, перадольваючы сябе, набраўся ўсё ж смеласці і папытаў: — А вы, Юрый Барысавіч, гэтага сабаку, выпадкова, не прадаяце?

Юрый Барысавіч замахаў рукамі:

— Што вы! Што вы!.. Не, вядома! Ды і не я, па сутнасці, з'яўляюся гаспадаром яго, а мая дачка. Скажы я ёй такое, яна абурыцца да глыбіні душы. Не. З гэтым сабакам яна не расстанецца ніколі. Сяброўства ў іх, так бы сказаць, узаемнае і моцнае. Дужа моцнае.

— Разумею, разумею… Шкада. А не дапамаглі б вы і нам займець такога сабаку? — не адступаў Дзяніс Герасімавіч.

Ажывіўся і Рыгорка, які ўвесь час падаваў сабаку нейкія толькі яму аднаму зразумелыя знакі, а той круціў галавой, нібы спрабаваў даведацца, што ён ад яго хоча. Хлопчык усклікнуў:

— Праўда! Дапамажыце! А я для вас увесь час буду капаць чарвякоў!..

Мужчына засмяяўся, пагладзіў Рыгорку па галаве, сказаў разважліва:

— Дапамагчы можна, але гэта будзе не так хутка. У нас чакаецца прыплод на наступны год... Адным словам, сябры мае, капайце чарвякоў, так і быць: як толькі ў Пальмы з'явяцца шчанюкі, я дам знаць. Згодны прыняць маю прапанову?

Рыгорка насупіўся:

— Канечне, згодны… Але ж вельмі доўга чакаць… А хутчэй нельга?

— Хутчэй не атрымаецца, — зноў усміхнуўся Юрый Барысавіч. — Я праўду кажу, Пальма?

Пачуўшы сваё імя, Пальма павярнула галаву і вачамі нібы папытала: дазволь, гаспадар, мне пагуляць. Юрый Барысавіч дазволіў:

— Ідзі, ідзі, мая харошая, пабегай.

Пальма панеслася да жанчын. Услед за ёй пабег і Рыгорка — капаць чарвякоў.

Вось так Дзяніс Герасімавіч пазнаёміўся з Юрыем Барысавічам. Бачыліся яны рэдка — толькі тады, калі Юрый Барысавіч прыязджаў парыбачыць і адпачыць на стромкі бераг Сожа з жонкай, дачкой і Пальмай.

А на наступны год, як і чакалася, у Пальмы з'явіліся шчанюкі. Юрый Барысавіч паведаміў пра гэтую прыемную падзею сваім новым знаёмым. Ён, вядома, мог прывезці шчанюка і сам, але толькі пазней — калі пачнецца рыбалка. Але ж паколькі ведаў, як не цярпелася Рыгорку мець сабачку, ды і яго бацьку, ён патэлефанаваў у вёску: прыязджайце! Акрамя таго, мы ўжо ведаем, у Дзяніса Герасімавіча меліся і іншыя справы ў горадзе…

**Пераклад з рускай Васіля ТКАЧОВА**

# З Куранёў — у свет

## *БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА Ў КАНТЭКСЦЕ СУСВЕТНАЙ*

### У БАРСЕЛОНЕ НАС НЯМА!



**Уладзімір Сцяпан** (пісьменнік, журналіст):

— Па-першае, беларускі тэкст, калі яго перакласці на іншую мову, становіцца ўжо быццам і не зусім беларускім. Такая гульня з перакладам мне нагадвае вывучэнне гісторыі мастацтва па рэпрадукцыях. Калі потым гэтыя творы бачыш у арыгінале, яны выглядаюць зусім па-іншаму: могуць расчараваць, могуць уразіць у сто разоў больш за рэпрадукцыі. Але рэпрадукцыі не патрабуюць перакладу...

Уся беларуская літаратура знаходзіцца далёка ў тылах літаратуры сусветнай, адстае на шмат гадоў. Як і беларускае выяўленчае мастацтва: яно таксама далёка-далёка ад мастацтва сусветнага, і няма на яго ніякага попыту, яно ўспрымаецца на Захадзе як чыста рэгіянальная з'ява. Сітуацыя на сённяшні дзень вельмі сумная — і такая яна ўжо даўно, з савецкага часу. Я не хачу сказаць, што гэта страшна: літаратура — не эканоміка. Мы такія, як мы ёсць.

Я быў у вялікіх, трохпавярховых кніжных крамах Варшавы, Барселоны, Берліна. Гэта крамы, дзе «ёсць усё». Прасіў паказаць беларускія кнігі, перакладзеныя на іншыя мовы. Не паказалі нідзе!



**Алесь Бадак** (пісьменнік, галоўны рэдактар часопіса «Нёман»):

— Мне падаецца значным удакладніць, пра што мы будзем разважаць «у кантэксце сусветнай»: пра агульны стан літаратуры ці пра асобныя імёны, якіх заўсёды — адзінкі? Праблема ў стане літаратуры ці ў нястачы асобных імён? Возьмем дзеля прыкладу сербскую літаратуру: ці сапраўды ўся яна на ўзроўні Павіча? Ці насамрэч уся беларуская літаратура другой паловы XX ст. вызначалася ўзроўнем Быкава: не стала Быкава — не стала літаратуры?

**Уладзімір Сцяпан:**

— Я зноў прывяду прыклад з выяўленчага мастацтва. Вось у Францыі XIX ст. панавала акадэмічнае мастацтва. Прыйшлі імпрэсіяністы, якіх цкавалі ў прэсе, выкідалі з салонаў. Але потым да ўсіх «дайшло». Дайшлі ідэі, бо яны былі. Імёнаў таксама былі не адзінкі, а добры тузін. Найперш павінны быць ідэі!

**Алесь Бадак:**

— Якія, напрыклад, ідэі ў сённяшняй польскай літаратуры? Ніякіх асаблівых? Ці значыць гэта, што польскай літаратуры таксама няма?

**Уладзімір Сцяпан:**

— Яна ёсць і наша літаратура ёсць. Выдаём кніжкі — значыць мы ёсць. Але толькі як пэўная рэгіянальная з'ява. А я кажу пра ўплыў, пра лідарства.



**Таццяна Сівец** (паэтэса, галоўны рэдактар газеты «ЛіМ»):

— Ці трэба так пнуцца ў сусветнае лідарства, у крамы Берліна і Парыжа? Нам бы свайго чытача заклікаць да нашай кнігі.

**Уладзімір Сцяпан:**

— Мы ж разважаем пра беларускую літаратуру ў сусветным кантэксце?

*Галіна Адамовіч, літаратуразнаўца:*

*«Пераход сусветнага ў нацыянальнае і нацыянальнага ў сусветнае разбурае закрытасць кожнай з літаратур паасобку і сусветнай класікі ўвогуле. Сусветная літаратурная класіка набывае новае жыццё, а класіка нацыянальная становіцца жывой крыніцай для іншых літаратур».*

**Таццяна Сівец:**

— Так, гэта «правакацыя» з майго боку. Каб падштурхнуць да пытання: чаму нам трэба беларускую літаратуру разглядаць менавіта ў сусветным кантэксце? Чаму не сказаць: вось наш хутар, мы тут жывём і ні з кім параўноўвацца не жадаем?

### «КЛАСІКАЦЭНТРЫЧНЫ» ПАДЫХОД



**Пятро Васючэнка** (пісьменнік, літаратуразнаўца, загадчык кафедры беларускай літаратуры МДЛУ):

— На мой погляд, варта высветліць баланс адносна «вампірызму» або «донарства» айчыннай літаратуры. Наша літаратуразнаўства на ўсіх узроўнях даказала прыярытэт першага: так ці інакш тое, што было ў літаратурах заходніх, у нас трансфармавалася. А што мы далі сусветнай літаратуры? Адпаведна, пачынаць гаворку трэба не з сучасных пісьменнікаў, якія вельмі хочуць выдавацца «ў сусвеце», але з класікаў. Кірыла Тураўскі, Францыск Скарына, Сімяон Полацкі намнога апераджалі свой час — на Захадзе і на Усходзе. Аддавалі больш, чым бралі. Трэба з іх пачынаць. Культурны абмен павінен быць класікацэнтрычным.

Мы кожныя пяць год святкуем юбілеі класікаў XX ст. і кажам: «Вялікія, вялікія, вялікія...» Для каго, для нас вялікія? Вялікі пісьменнік тады, калі ён прыносіць нейкае мастацкае адкрыццё, пра якое казаў Уладзімір Сцяпан. І трэба даказаць, што гэта адкрыццё. Вы ў мяне спытаеце: «А ты, Пятро, даказаў такія адкрыцці?» І я скажу: «Так, даказаў».

У мяне ёсць некалькі адпаведных артыкулаў пра Коласа, Купалу, Багдановіча, Гарэцкага. Вось адкрыцці Купалы: мастацкае асэнсаванне праблем «Паэт — улада», «Прарок і натоўп» і асабліва — «Лёс маленькай нацыі ў глабалізаваным свеце». Няўжо гэты духоўны вопыт не цікавы сучаснаму глабалізаванаму свету? І няўжо гэта не праблема? Узяць таго ж Мележа: як і Маркес, ён знайшоў вялікую тэму пераходу ўніверсальнага ў нацыянальнае і наадварот. Маркес на прыкладзе маленькай вёсачкі Макондa паказаў лёс цывілізацыі, а Мележ — на прыкладзе Куранёў.

Моцны рэтранслятар літаратуры — кіно. Сорамна беларусам дагэтуль не стварыць кінаэпасу паводле «Новай зямлі».



**Таццяна Студзенка** (літаратуразнаўца, дацэнт Інстытута журналістыкі БДУ):

— Сапраўды, ёсць тэмы беларускай літаратуры, цікавыя ў самым шырокім свеце. І гэта трэба паслядоўна дэманстраваць — дарэчы, не толькі замежнаму чытачу, але і нашаму. Гэта вялікая адказнасць для даследчыкаў, якія павінны добра ведаць і беларускую, і сусветную літаратуру, і гісторыю. А таксама філасофію, якая дае грунтоўныя мадэлі параўнання і ўзаемасувязі самага шырокага культурнага досведу.

Існуе, прыкладам, метадалагічная канцэпцыя ўсёадзінства. Яна зыходзіць з таго, што шэраг культурных (літаратурных) з'яў яднае пэўны «цэнтр», агульная праблематыка. Напрыклад, «маленькая нацыя ў глабалізаваным свеце»: вакол гэтай тэмы сканцэнтруецца досвед шматлікіх «маленькіх» нацый. А як быць з «вялікімі»? Ёсць, на мой погляд, тэма беларускай класічнай літаратуры, значная для ўсіх літаратур і нацый: самаўсведамленне — самаасэнсаванне — самасцвярджэнне, драматызаванае няпэўнасцю, нявызначанасцю гістарычнай адзінкі, якая толькі становіцца нацыяй.

Такі «сусветны кантэкст» значны не толькі для рэтрансляцыі на замежжа, але і для нас саміх. Грунтоўнае асэнсаванне беларускай літаратуры можа адбыцца толькі шляхам часовага «абстрагавання» ад яе дзеля спасціжэння іншых літаратур, свядомага яе «падпарадкавання» ім. Толькі пасля гэтага магчымы прынцыповы ўзровень інтэрпрэтацыі, вызначаны шырынёй далягляду і паглыбленнем думкі.

### КРОК ЗА КРОКАМ



**Іван Саверчанка** (пісьменнік, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута мовы і літаратуры НАН Беларусі):

— У нас вялікая і глыбокая літаратура — у мінулым і сённяшнім часе. Імёны і здабыткі — ва ўсіх відах, родах і жанрах літаратуры. Шмат творчых індывідуальнасцей, у кожнага аўтара свая сістэма каштоўнасцей (светапоглядных, духоўных, мастацкіх). Ім няма падстаў варагаваць паміж сабой — усім хапае месца. Асабліва заўважныя здабыткі ў «малых» формах: яны мабільныя, аператыўныя і разам з тым маюць высокі філасофскі патэнцыял.

Каб паказаць усё гэта на сусветным узроўні, патрэбна сістэмная, шматузроўневая праца. Па-першае, ніяк не абысціся без дзяржаўнай падтрымкі, бо трэба ставіць пытанне пра стварэнне нацыянальнага агенцтва перакладу. Няхай гэта пакуль будзе толькі адзін чалавек у Міністэрстве інфармацыі, але каб ён мог рэгуляваць усю адпаведную сістэму. Прыкладам, паехала дэлегацыя пісьменнікаў на Кубу — і прадстаўнік агенцтва з імі, дбаючы пра двухбаковую перакладчыцкую працу. Гэта пытанне на перспектыву, але яго прыйшоў час ставіць, і яно ўзнімаецца тым ці іншым чынам ва ўсім свеце.

*Студэнты Інстытута журналістыкі БДУ:*

*«Цікавая для ўсіх адукаваных еўрапейцаў гісторыя Беларусі, адлюстраваная ў мастацкіх творах, таму што яна — частка гісторыі еўрапейскай. Яна, як кажуць, — на скрыжаванні».*

Але можна штосьці рабіць ужо сёння. Напрыклад, увесці ў літаратурна-мастацкіх часопісах кшталту «Полымя» рубрыку «Сусветная класіка на беларускай мове». Зразумела, трэба грунтоўна і прафесійна выбіраць імёны і творы, суправаджаць адпаведнымі артыкуламі. Разам з такімі публікацыямі наладжваць сувязі з адпаведным замежным бокам, з тамтэйшымі прафесарамі-філолагамі: няхай ацэняць якасць перакладу, выкажуць свае ўражанні і меркаванні.

Нас дрэнна ведаюць у Расіі. А яна — наш першы партнёр у дадзенай справе. Трэба распрацоўваць сувязі з расійскім літаратуразнаўствам, таму што яно мае выхад на ўвесь свет.

**Алесь Бадак:**

— Беларуская літаратура прадстаўлена ў часопісе «Наш современник», у «Литературной газете», наладжваецца кантакт з часопісам «Литературная учёба». Але часопісы цяпер мала хто чытае — у Беларусі і ў Расіі. Іншая справа — выдаваць у Расіі кнігі, але гэта вельмі цяжка.

**Таццяна Студзенка:**

— Можа, рубрыка «Замежная класіка ў беларускіх перакладах» павінна суіснаваць з рубрыкай «Беларуская класіка на мовах свету»?

**Пятро Васючэнка:**

— У нас няма часопіса па замежнай літаратуры, такога, як некалі былі «Далягляды», як існуе ва Украіне «Усесвіт». Студэнты МДЛУ будуць ахвотней рабіць пераклады, калі будзе канкрэтнае выданне для публікацыі. Адпаведныя рубрыкі — толькі спарадычныя акцыі.

Яшчэ: павінна быць прафесійная літаратурна-крытычная навігацыя ў сецыве. Цяпер ёй займаюцца абсалютна выпадковыя людзі.

**Уладзімір Сцяпан:**

— Не будзе так з «сістэмай рэтрансляцыі», што зверху «спусцяць» спіс з пяці беларускіх пісьменнікаў — і ўсе іх будуць выдаваць, прапагандаваць, перакладаць і г. д.?

**Таццяна Сівец:**

— Можа быць і больш справядлівы варыянт: нацыянальная літаратурная прэмія або некалькі прэмій па розных намінацыях. Пераможцаў вядомых літаратурных прэмій у свеце ведаюць усе — няхай такім чынам становяцца вядомымі і нашы.

**Іван Саверчанка:**

— Калісьці існавала выдавецтва «Прогресс», якое выдавала замежную класіку на замежных мовах. Можна рабіць такія выданні з уключэннем адпаведных беларускіх твораў у перакладзе: двухмоўны — двухаўтарскі варыянт. Гэта рэальны экспарт у іншамоўны свет.

**Алесь Бадак:**

— Экспарт, дарэчы, самаакупляльны. Ва ўсялякім разе, сёння можна зрабіць наступнае: на сайце Выдавецкага дома «Звязда» ўвесці рубрыку «Беларуская літаратура на мовах свету».

**Пятро Васючэнка:**

— Каб больш якасна весці працу па кантэнце ўсіх гэтых праектаў, мэтазгодна ўвесці спецыялізацыю па кампаратывістыцы. Ёсць жа параўнальнае мовазнаўства, павінна быць і параўнальнае літаратуразнаўства. Гэта яшчэ адно звяно.

*Таццяна Шамякіна, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, загадчык кафедры беларускай літаратуры і культуры БДУ:*

*«Скажу кашчунную рэч. Не патрэбна столькі энергіі на ўласную рэкламу. Усё павінна ісці як бы само сабой, прычым у агульнай звязцы літаратуры з іншымі дасягненнямі культуры».*

*Рэдакцыя «ЛіМа» запрашае ўсіх неабыякавых да гэтай дыскусіі выказваць свае меркаванні. Чакаем і перакладаў — на беларускую мову і з беларускай!*

**Падрыхтавала Таццяна СТУДЗЕНКА**

# Калі гарэла неба за Дзвіною...

**У Выдавецкім доме «Звязда» рыхтуецца да перавыдання кніга Сяргея Панізніка «Асвейская трагедыя». Здавалася б, шараговы факт — чарговая кніга пра вайну з'явіцца на паліцах многіх кнігарань і бібліятэк. Але гэта не проста выданне. Гэта кніга народнай памяці, якая для яе аўтара сталася па сутнасці вынікам працы ўсяго жыцця. Напэўна, таму ён не адразу пагадзіўся на інтэрв'ю: надта складана было працаваць над перавыданнем і дадаткам да ўжо вядомага тэксту.**

**Марына ВЕСЯЛУХА**

Як прызнаўся потым Сяргей Сцяпанавіч, у галаве зноў пачалі гучаць галасы сведак карнай аперацыі на поўначы Беларусі ў лютым 1943 года, якая атрымала назву «Зімовае чараўніцтва»... а словы сталі складацца ў вершаваныя радкі. Па-сутнасці, інтэрв'ю ў нас і не атрымалася... не хацелася перапыняць аповед аўтара дадатковымі пытаннямі... атрымаўся маналог. Кранальны, эмацыянальны, шчыры.

— У Мёрскім раёне, дзе я нарадзіўся і рос, ёсць балота Мох. Калі пачалася карная аперацыя, трэба было ўсім разам уцякаць да партызанаў. І мая бабуля сядзела ў гэтым балоце, дыхала праз чаротавую трубачку... А карнікі ішлі на спецыяльных гумовых лыжах. Да мяне не дайшла гэтая карная экспедыцыя. І калі я падрастаў, мама казала, што ў тыя дні за Дзвіной гарэла неба.

Поўнач Беларусі падчас вайны была пякучай тэрыторыяй, яе потым назвалі «Брацкі партызанскі край». Было некалькі баявых выхадаў на тэрыторыю Латвіі. Тутэйшыя партызаны пайшлі за лінію фронту, а людзі, якія іх карміелі і даглядалі, засталіся самі па сабе. Карнікі выпалілі Асвейшчыну. Ацалелых адправілі ў канцлагер Саласпілс. Які лёс дзяцей-вязняў? Як іх ратавалі? Давалі прытулак пры цэрквах ці манастырах у Рызе, або проста на вуліцы, на плошчы прадавалі за 10 дойчмарак. Адны сведкі мне распавядалі, што працавалі на хутары і сядзелі за сталом разам з гаспадарамі. Другія казалі, што іх трымалі ў будках з сабакамі. Мне хацелася распавесці праўду. Я падумаў: да мяне карнікі не дайшлі, я застаўся. Пайду да тых, хто таксама застаўся, буду іх слухачом. Яны мне расказжуць пра вогненнае неба над Дзвіной.

У Асвейскай трагедыі многа трагедый, іх не ўсе можна нават назваць, і калі выйшла кніга Алеся Адамовіча, Янкі Брыля і Уладзіміра Калесніка «Я з вогненнай вёскі», я падумаў: а што было пасля вогненных вёсак? Дарэчы, саму назву кнізе дала жанчына з Асвеі. Яна ішла па вуліцы і запыталася ў аўтараў: «А чаму вы са мной не пагаворыце, я ж таксама з вогненнай вёскі?»

У 1974 годзе ў Рызе я сустрэўся з паэтам Эйжэнам Вэверысам. Ён быў вязнем канцлагера ў Саласпілсе. Ён даў мне імпульс працаваць. Паказаў: вось архівы, картатэкі, гравюры, на якіх ёсць і мае землякі. Тады ж я пазнаёміўся з мастаком Каралісам Бушам, гравюры якога сталі ілюстрацыямі да «Асвейскай трагедыі», ён быў у Саласпілсе, пасля вайны зрабіў серыю работ, і мае землякі фактычна таксама там. Гэтыя людзі мяне скіравалі, я пачаў шукаць жывых вязняў. Аказалася, што на кожнай вуліцы Рыгі жывуць асвейцы. Санкт-Пецярбург, Кіеў... Давялося аб'ехаць палову СССР, вёў актыўную перапіску. Былых жыхароў Асвейшчыны лёс раскідаў па ўсім свеце. Я атрымліваў лісты з Марока, Нью-Ёрка...

Я абышоў усе хутары на Асвейшчыне, Верхнядзвінскі раён, каля вёскі Бігосава нават хатку купіў, каб можна было туды прыязджаць, і паспеў іх убачыць, паслухаць. Я сяджу за сталом, яны гавораць, а ў мяне валасы дыбам...

Акрамя «Асвейскай трагедыі», дакументальнай аповесці «Браніслава» я быў укладальнікам кнігі «Дзеці вайны». Адтуль таксама ўзяў некалькі публікацый, якія датычаць тэмы Асвея — Саласпілс і лёсу асвейцаў у Латвіі.

У латышскай прэсе з'яўлялася шмат публікацый на гэтую тэму, і я збіраў усё, што толькі мог. Да гэтага пытання звярталіся і журналісты, і самі вязні, якія нешта хацелі сказаць у прэсе. Але ў мяне самая галоўная тэма.

Калі пагадзіліся перавыдаць «Асвейскую трагедыю», мяне неяк ускалыхнула па-новаму. Я думаў, што ўжо закончыў працу над гэтай тэмай. Аказваецца, не. Калі свае архівы пачаў прагдядаць, то знайшоў многія матэрыялы, якія не былі выкарыстаны. Гэта лісты, што я атрымаў ужо пасля выхаду кнігі ў 1992 годзе.

Аказваецца, гэтая тэма не можа знікнуць з майго жыцця. Я зноў на тых хутарах. Зноў мне чуюцца гэтыя гукі, размовы. І я вось думаю: тады ў мяне было столькі імпэту і думак, а як жа яны маглі гэта ўсё вытрымаць? І гэта сіла. Гэта трагедыя, але яшчэ і люстэрка моцы нашага народа. Я ўжо не буду прыводзіць статыстыку, што на Асвейшчыне не стала кожнага трэцяга. Але душэўныя сілы, моц і надзея, якая ёсць у людзей, напэўна, засталіся і для некалькіх наступных пакаленняў.

Дадатак, які я зрабіў для новага выдання, атрымаўся вельмі вялікі, відаць, немагчыма ўсё змясціць. Але я фактычна рабіў для сябе. Як я гэта ўсё вытрымаю. Гэтую інфармацыю, гэты цяжар, цяжар пакут, перажыванняў. Неўзабаве з'явіцца яшчэ і кніга паэзіі, бо часам словы сведак нараджалі вершаваныя радкі. Але я ведаю, што ў запасе яшчэ шмат працы над гэтай тэмай.

### Рэквіем па ахвярах Асвейскай трагедыі

*Зверху — полымнае неба,*
*знізу — чорная зямля...*
*Ад жывіначак — аскепак:*
*прыгалосак немаўля.*
*На пажарышчах — ні дыху*
*у пустэльную лазу.*
*Ледавік абрушыў крыгу,*
*смерць — крыжацкую касу.*
*І не мружацца Асвеі*
*зацярушаныя веі,*
*і не вылюблена выя...*
*Шэрым воўкам*
*Доля вые.*
*Ну а Памяць, Праўда, Воля*
*паглынаюцца ў разлом.*
*...Будзіць гукі раўнаполля*
*сэрцаў вечны метраном, —*
*далучыць да Праўды хлеба*
*Волю роднага жылля...*
*Нам для Памяці і трэба:*
*а д у х о ў л е н а е  н е б а ,*
*у в а с к р о с л а я  з я м л я .*

**Сяргей ПАНІЗНІК**



*Былы вязень саласпілскага канцлагера Васіль Скрыпко са сваёй ратаўніцай Ксеніяй Урублеўскай. Рыга. 1977 г.*




*Саласпілскі мемарыял. Надпіс над уваходам: «За гэтымі варотамі стогне зямля». 1975 г.*

# «Не знікай»

**Так казаў паэт Алесь Пісьмянкоў на развітанне сваім сябрам. І так называецца кніга, прэзентаваная ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры.**

**Анастасія ГРЫШЧУК**

Прэзентацыю вырашылі прымеркаваць да Дня народзін паэта — 25 лютага. Укладальніцай кнігі стала Алена Пісьмянкова — жонка Алеся Уладзіміравіча. Сябры і знаёмыя паэта ўсе як адзін узгадвалі, які светлы, шчыры, добры чалавек быў Алесь Пісьмянкоў, гаварылі пра яго патрабавальнасць да ўласных радкоў.

На думку Навума Гальпяровіча, мы, на жаль, пакуль яшчэ не зразумелі, які паэт Алесь Пісьмянкоў.

Паэт Анатоль Зэкаў прыгадаў гісторыю пра першы верш, напісаны Алесем Пісьмянковым. У класе была дзяўчынка, у якую былі закаханыя ўсе, у тым ліку і А. Пісьмянкоў. І ў чацвёртым класе ён вырашыў ёй прызнацца. Напісаў ёй цыдулку: «І ўдзень, і ўночы, парой вясновай люблю я Таньку Раяўнёву...» І адправіў ёй. Дзяўчынка паказала цыдулку сяброўцы. А там і іншыя зацікавіліся. Алена Трыфанаўна, першая настаўніца, заўважыла, што нешта адбываецца, і ўрэшце цыдулка трапіла да яе. Настаўніца паставіла Пісьмянкова ў кут. «І стоячы ў гэтым куце, — казаў Алесь, — я напісаў яшчэ адзін верш!» Алена Трыфанаўна не ведала нават, які вялікі ўчынак зрабіла: у тым куце нараджаўся паэт! Пасля смерці Пісьмянкова, калі мы выступалі ў той школе, я сказаў настаўнікам: «Вы ведаеце, дзе гэты кут?.. Замацуйце там мемарыяльную шыльду: «У гэтым куце нарадзіўся вядомы беларускі паэт Алесь Пісьмянкоў!» Гэта, мусіць, быў бы адзіны мемарыяльны кут у свеце».

Вершы, прысвечаныя Алесю Пісьмянкову, чыталі Васіль Жуковіч, Аксана Ярашонак, Вольга Шпакевіч. Барды Алесь Нежавец і Дзмітрый Пятровіч праспявалі песні на словы паэта.

## Час чытаць



**Наталля ШМАКАВА,** консультант аддзела ўстаноў адукацыі і работы з таленавітай моладдзю Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь:

# Варта верыць

— Адно з першых моцных жаданняў у жыцці — навучыцца чытаць самастойна, каб не прасіць ні бацькоў, ні бабулю, а ўзяць кнігу ў любы момант і пачаць цудоўнае падарожжа ў свет яе падзей. У чатыры гады мая мара здзейснілася. Бацькі былі настаўнікамі, дамашняя бібліятэка налічвала каля дзвюх тысяч кніг. Але мы з бабуляй усё роўна хадзілі ў бібліятэкі: я была запісана адразу ў тры!

Уся дзіцячая прыгодніцкая літаратура зачытана мною да дзірак. Дасюль магу працытаваць любы дзіцячы твор, бо засынала і прачыналася з кнігай. На маім чытацкім рахунку — зборы твораў Жуля Верна і Аляксандра Бяляева. "Вайну і мір" Льва Талстога адолела ў шостым класе. І дасюль гэта адзін з самых любімых твораў. Мне вельмі падабаецца Маргарыта з вядомага рамана Булгакава. Вельмі. Там ёсць такая сцэна, калі Азазэла дэманструе, як ён страляе: не гледзячы, праз падушку прастрэльвае карту абсалютна дакладна. І Маргарыта захоплена радуецца гэтаму, бо яна больш за ўсё цэніць майстэрства. Для мяне гэта ў ёй — ключавое.

Адначасова чытаю некалькі кніг. Бывае, звяртаюся да напаўзабытага. Пакольві выхавана на класіцы, любімыя аўтары — Чэхаў, Дастаеўскі, Зошчанка, Булгакаў, Талстой, Аверчанка і многія іншыя. Цалкам згодна з Булгакавым — рукапісы не гараць: сапраўдныя аўтары застануцца для многіх пакаленняў чытачоў.

Стараюся сачыць і за літаратурнымі навінкамі. Не магу выйсці з кнігарні без пакупкі. Збіраю творы Галіны Шчарбаковай. У іх аснове — чэхаўскія сюжэты. Але героі — нашы сучаснікі. Параю і вам не пакінуць па-за ўвагай яе твор "Яшкавы дзеці", якія не так даўно прачытала. Карацей кажучы, я вельмі люблю чытаць. Прыходзіць момант сумнення, слабасці — адкрываю Валошына, Ахматаву, Пастарнака, Токараву і разумею, што варта жыць, варта змагацца і верыць таму, што цуды здараюцца.

## Нататкі рамантычнага маркетолага



**Кацярына СІМАН**

# Выхаванне розуму

Хочам мы таго ці не, але наша свядомасць часта поўніцца стэрэатыпамі і пэўнымі культурнымі клішэ. І не варта слова "стэрэатып" адразу ўспрымаць са знакам "мінус". Часам разумна было б сказаць "традыцыя". І тады многія колеры набываюць іншыя адценні. Пагадзіцеся, у нашай свядомасці ўкараніўся вобраз: кнігі, хатняя ўтульнасць, фатэля, а за акном — навальніца ці завея. Кажу пра гэта, таму што не так даўно натрапіла ў сеціве на матэрыял Ларысы Міхальчук пра XVII Мінскую міжнародную кніжную выстаўку-кірмаш. Загаловак адразу прыцягнуў маю ўвагу — "Кніга, дождж і асалода".

А яшчэ кнігі — гэта выдатныя лекі амаль ад усяго. Асабліва ў сезон праступ. Так і мне сёлета не пашанцавала правесці лютаўскія дні ў кампаніі шалікаў, гарбаты і насовак. Затое, калі пачала адчуваць сябе лепей, з'явіўся час чытаць столькі, колькі мне хочацца. І вядома, яшчэ раз пераканалася, што кніжнікі — гэта сапраўды гандляры эмоцыямі і неверагоднымі спецэфектамі ўяўлення. Такія карціны часам малююцца ва ўяўленні пры чытанні гістарычнага рамана ці зборніка філасофскіх прытчаў, што ўсіх "Оскараў" у якасці ўзнагароды будзе мала.

Але вызначальную ролю пры гэтым адыгрывае менавіта стыль выкладання, непаўторны водар мовы, уласцівы кожнаму аўтару індывідуальна. Напісаць захапляльную мастацкую кнігу, з аднаго боку, працей, таму захапляльную навукова-папулярную літаратуру я люблю нашмат больш, чым вострасюжэтныя раманы.

У дні майго вымушанага бяздзеяння я амаль неадрыўна ўпівалася кнігай Джона Хемінга "Заваяванне імперыі інкаў". Вострых паваротаў сюжэта пра тое, як Франсіска Пісаро шукаў крыніцу вечнай маладосці ў кампаніі Джэка Вераб'я, там зусім няма. Затое як лёгка і ярка апісваюцца экспедыцыі ў глыбіню Паўднёвай Амерыкі! Здаецца, мы на ўласныя вочы бачым сустрэчу іспанскіх канкістадораў з пасланнікамі Атауальпы — сынам Вялікага Інкі.

Тут мне на розум прыйшло адно кніжнае шкадаванне. Сёння лёгкая, а таму даступная для разумення і карысная для самаразвіцця навукова-папулярная літаратура ў большасці прадстаўлена ў раздзеле перакладаў. Але ж у нас былі такія выдатныя вытокі, такія карані. Серыя кніг "Эўрыка", што выпускалася выдавецтвам "Молодая гвардия", выхоўвала не адно пакаленне савецкіх інтэлектуалаў. Дык чаму ж з падзеннем знакамітай "жалезнай заслоны" многія выдаўцы адразу падхапілі не самыя лепшыя заходнія тэндэнцыі, раскідаўшы свае жамчужыны думкі па запыленых каморах?

Цяпер модна бедаваць наконт страчанай каштоўнасці добрай адукацыі і развітых інтэлектуальных здольнасцей дзяцей і падлеткаў. А дзе прычына? Яна якраз і хаваецца ў значным зніжэнні якасці літаратуры ў пачатку "ліхіх 90-х". Але праблема вартых кніг актуальная не толькі для выхавання падлеткаў. Запытайцеся спецыяліста ў любой галіне. Амаль кожны вам адкажа, што найлепшай літаратурай па сваёй прафесіі ён лічыць перакладныя публікацыі.

Я зусім не супраць заходніх вучэбных дапаможнікаў і навукова-папулярных выданняў. Зусім не! Мне толькі вельмі сумна праз тое, што ў гэтых кірунках літаратуры нашмат менш прадстаўлены айчынныя аўтары. Спадзяюся, настане — і вельмі хутка — час, калі першачарговай задачай для аўтара рукапісу будзе не столькі камерцыйны поспех, колькі цікавая праца. І тады творы пакінуць свой след у сэрцах чытачоў на доўгія гады. Бо, думаю, кожны з нас усёй душою за тое, каб кніг было больш, кніг добрых і... родных.

**Кніжная выстаўка адгрымела, госці раз'ехаліся, але засталося галоўнае. Вашай увазе — найбольш цікавыя з прэзентаваных выданняў.**

Анастасія ГРЫШЧУК

# Беларусы Масквы




*Вольга Бажэнава: "Беларусы дапамаглі прарубіць акно ў Еўропу"*

Кніга-альбом "Беларусы Масквы. XVII стагоддзе" — беларуска-расійскі выдавецкі праект, рэалізаваны ў межах Пагаднення паміж Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь і Дэпартаментам сродкаў масавай інфармацыі і рэкламы горада Масквы. Гэта трэці сумесны праект: раней выйшлі "Энцыклапедыя Перамогі. Беларусь — Масква" (2009) і "Жывая вера. Ветка" (2012), якія ўваходзяць у серыю "Энцыклапедыя рарытэтаў".

Кніга прадстаўляе з сябе ўнікальную калекцыю твораў, якія з'явіліся ў Маскве XVII стагоддзя дзякуючы беларускім керамістам, рэзчыкам, залатых і срэбных спраў майстрам, мастакам. Іх работы дагэтуль упрыгожваюць Маскоўскі Крэмль, Новаерусалімскі манастыр, Царскі двор у Каломенскім.

Акрамя таго, у склад кнігі ўвайшлі даследаванні 13 навукоўцаў, з якіх два — беларусы, адзін літовец, астатнія — расіяне.

Кніга развейвае міф пра безабаронную беларускую культуру, на якую ціснулі з усіх бакоў. Пра тое ж сказала і Вольга Бажэнава, навуковец, адзін з аўтараў і натхняльнікаў праекта.

— У XVII стагоддзі адбылася беспрэцэдэнтная з'ява: дзякуючы беларусам культура Маскоўскай дзяржавы цалкам абнавілася. І гэта не перабольшванне. Калі ў Маскву вывезлі палонных рамеснікаў — а так называлі і мастакоў, — культура Расіі пераняла элементы заходнееўрапейскай. Слова "беларускі" адносна вялікай колькасці ўпрыгожванняў Крамля, зброі, іканастасаў пачуеш не ад усіх даследчыкаў. Звычайна кажуць, што гэта заходнееўрапейскі ўплыў. Але носьбітамі яго былі менавіта беларусы. Дзякуючы ім Расія здолела "прарубіць акно ў Еўропу".

# Авангард, абсурд, фантастыка

Аўтар кнігі — Аляксандр Лакотка, доктар архітэктуры, доктар гістарычных навук, этнолаг, мастацтвазнаўца.

У кнізе праведзеныя паралелі паміж гісторыяй чалавецтва і развіццём архітэктуры. Менавіта ў часы пераломаў грамадскага ладу і найбольшага ўзрушэння ўзнікалі мадэрновыя плыні архітэктуры, як было, напрыклад, напярэдадні Вялікай французскай рэвалюцыі. У драматычным XX стагоддзі з'яўляюцца новыя філасофскія плыні, у межах якіх распрацоўваецца тэорыя пра паскарэнне часу. Гэта бачна і ў архітэктуры: калі ранейшыя стылі — готыка, рэнесанс, класіцызм — існавалі цягам стагоддзяў ці дзесяцігоддзяў, то сучасныя кірункі сталі мяняцца вельмі хутка. Так, у архітэктуры адбіваецца дух часу, і таму Аляксандр Лакотка называе яе летапісам свету.

Асобны раздзел прысвечаны наватарскім плыням. Размова ідзе пра ўнёсак нашых мастакоў у развіццё еўрапейскай і сусветнай архітэктуры, а таксама пра адраджэнне беларускіх гарадоў пасля Вялікай Айчыннай вайны. Адбудову аўтар называе вялікім наватарскім дасягненнем, бо аднолькавыя гарады ўвабралі ў сябе элементы ўсіх мастацкіх кірункаў, што існавалі раней. Так, мінскі праспект Незалежнасці мае агульную канцэпцыю з Елісейскімі Палямі Парыжа.

Кніга завяршае адмысловы цыкл, што выходзіў у свет цягам васьмі гадоў: шасцітомнае выданне "Архітэктура Беларусі", працы Алы Шамрук, "Архітэктура Беларусі ў ерапейскім і сусветным кантэксце" самога Аляксандра Лакоткі.




# Vivat факсіміле!




Нацыянальная бібліятэка Беларусі прадставіла факсімільныя выданні 2012 года: "Буквар мовы славянскай" (1767), "Сымон-музыка" (1925) Якуба Коласа, "Шляхам жыцця" (1913) Янкі Купалы, "Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі" (1926) Вацлава Ластоўскага, "Жыцие Еўфрасінні Полацкай" (XV — XVI ст.) і зборнік артыкулаў "Калядная пісанка" (1913).

Паводле дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Рамана Матульскага, адным нарадам для поўнага ўзнаўлення кніжнай спадчыны не хапае 5 працэнтаў пісьмовых помнікаў, іншым — 10—15. У нас жа сітуацыя адваротная: усяго некалькі працэнтаў ад агульнай кніжнай спадчыны захавалася. І было б няблага вярнуць арыгіналы, але сёння гэта надзвычай складана. Пакуль што факсімільныя выданні з'яўляюцца адзіным выйсцем. Вялізная падтрымка ў гэтай справе прыйшла з боку прыватных бізнесменаў, неабыякавых да культуры.

Сёння чакаюць сваёй чаргі яшчэ каля 500 помнікаў кніжнай спадчыны: творы старажытнай мастацкай літаратуры, помнікі дзяржаўнасці — летапісы, хронікі, помнікі рэлігійнай літаратуры (у прыватнасці, Лаўрышаўскае евангелле), творы беларускай навукі (не сакрэт, што Нацыянальная бібліятэка набыла прыжыццёвае выданне Казіміра Семяновіча) і інш.

# На старых паштоўках

Амаль восем гадоў таму ў газеце "СБ. Беларусь сегодня" быў распачаты праект "У пошуках страчанага", стваральнік якога — Уладзімір Ліхадзедаў, калекцыянер-філакартыст. Раз на тыдзень выходзіў артыкул, "праілюстраваны" шасцю паштоўкамі з калекцыі спадара Уладзіміра. Як правіла, гэта былі нарысы пра мястэчкі ці буйныя гарады Беларусі.

Пазней распачалося выданне кніг на аснове старых паштовак, фотаздымкаў і літаграфій. Да гэтага часу выдадзена 13 гістарычных фотальбомаў: "Мінск: падарожжа ў часе", "Беларусь і мусульманскі свет", "Адам Міцкевіч: на старых паштоўках канца XIX — пачатку XX стагоддзя" (кніга прызнаная ў 2010 годзе лепшай кнігай Польшчы), "Сінагогі", "Беларусь праз фотааб'ектыў нямецкага салдата. 1915 — 1918" і інш. Два альбомы, прысвечаныя вайне 1812 года, атрымалі ўзнагароды на конкурсе "Мастацтва кнігі".

Уладзімір Ліхадзедаў часта прадстаўляе свае калекцыі паштовак шырокай публіцы. Акрамя таго, з праекта "У пошуках страчанага" нарадзілася яшчэ адна добрая справа: усталяванне помніка падзеям вайны 1812 года па дарозе з Маладзечна на Вілейку.

Праект "У пошуках страчанага" працягваецца. Сумесна з "Выдавецкім домам "Звязда" плануецца выпуск дзвюх кніг — "У пошуках страчанага" і "Знічкі Айчыны" (другая частка), а ў выдавецтве "Тэхналогія" рыхтуецца серыя пад назвай "Яўрэйскае жыццё" і двухтомнік, прысвечаны стагоддзю з пачатку Першай сусветнай вайны.




Фота Наталлі Купрэвіч

*Уладзімір Ліхадзедаў і яго выданні*

# Архівы не гараць!

120-годдзе з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага прымушае звярнуць пільную ўвагу на лёс яго асабістага архіва, які захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі.

**Марына ЛІС, Таццяна ЖУК**

Архіў М. Гарэцкага паступіў на захаванне ў Цэнтральную навуковую бібліятэку ў 1971 годзе. Жонка творцы, беларуская пісьменніца Леаніла Чарняўская, і дачка Галіна Гарэцкая перадалі ў дар бібліятэцы частку яго літаратурнай спадчыны, у тым ліку рукапісы твораў, машынапісныя і друкаваныя тэксты з аўтарскай праўкай, а таксама дакументы да біяграфіі, перапіску.

У даведцы, якая была дададзена да дароўнай, Г. Гарэцкая адзначала, што не ўсе рукапісы бацькі захаваліся поўнасцю: частка з іх магла згубіцца ў час праверак пасля арыштаў у 1922, 1930 і 1937 гг. Да таго ж, як вядома, М. Гарэцкі не любіў пакідаць чарнавікоў, таму з чарнавых рукапісаў засталіся толькі тыя, што ў далейшым маглі б спатрэбіцца для працы і што зберагла жонка пры яго жыцці. Выпадкова захаваўся невялікі сшытак-чарнавік з рукапісам «Віленскіх камунараў». І толькі дзякуючы таму, што М. Гарэцкі аддаў яго малому сыну для малявання на чыстых (адваротных) старонках.

Згодна з дароўнай ад 12 сакавіка 1971 года, дакументамі, што паступілі ў фонд аддзела, мелі магчымасць карыстацца толькі члены Камісіі па літаратурнай спадчыне М. Гарэцкага, а таксама іншыя асобы, што законным шляхам маглі быць уведзены ў склад камісіі. Першапачаткова тэрмін забароны на карыстанне матэрыяламі архіва быў акрэслены 10 гадамі.

У 1977 годзе Г. Гарэцкая перадала ў аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі дадатковыя матэрыялы з архіва бацькі: рукапісы твораў, лісты, у тым ліку і франтавыя, сына пісьменніка Леаніда Гарэцкага, дакументы побытавага характару, фотаздымкі, уласныя ўспаміны, матэрыялы з асабістага архіва маці, Леанілы Чарняўскай.

У дароўнай ад 12 ліпеня 1977 года былі ўдакладнены ўмовы карыстання дакументамі з рукапісnай спадчыны М. Гарэцкага: «на працягу 25 гадоў з моманту выдачы гэтай дароўнай доступ да рукапісных і друкаваных матэрыялаў Максіма Гарэцкага, Леанілы Чарняўскай-Гарэцкай, Леаніда Гарэцкага і Галіны Гарэцкай маюць толькі члены Камісіі па выданні літаратурнай спадчыны Максіма Гарэцкага». Пасля заканчэння вызначанага тэрміну карыстацца дазвалялася толькі копіямі дакументаў. Абгрунтоўваючы забарону на карыстанне архівам, Г. Гарэцкая спасылалася на кепскі фізічны стан рукапісаў. Да дароўнай прыкладаўся спіс дакументаў, які складаўся з 65 пазіцый.




АТТЕСТАТЪ.

Данъ отъ Учебно-хозяйственнаго Совѣта Горецкаго землемѣрно-агрономическаго училища, на основаніи § 8 ВЫСОЧАЙШЕ утвержденнаго 19 апрѣля 1909 года Положенія о Горецкомъ землемѣрно-агрономическомъ училищѣ, за надлежащимъ подписомъ и приложеніемъ печати Горецкому Максиму Ивановичу въ томъ, что онъ поступилъ въ число учениковъ означеннаго училища въ 1909 году и, находясь въ ономъ по 1913 годъ, окончилъ полный курсъ теоретическаго и практическаго ученія, причемъ оказалъ слѣдующіе успѣхи:

1) ПО ОБЩЕОБРАЗОВАТЕЛЬНЫМЪ ПРЕДМЕТАМЪ отличные (5-) (Законъ Божій, русскій языкъ, отечествовѣдѣніе, алгебра, геометрія, тригонометрія, космографія, законовѣдѣніе);

М. Гарэцкі. Атэстат аб заканчэнні Горацкага каморніцка-агранамічнага вучылішча. 1913 г.




Вокладкі кніг М. Гарэцкага.

Апошняя перадача матэрыялаў з уласнага архіва М. Гарэцкага адбылася ў чэрвені 1999 года, калі Г. Гарэцкая перадала пісьмы У. Дубоўкі і яго жонкі да сям'і Гарэцкіх. Такім чынам, сёння ўласны архіў М. Гарэцкага, што захоўваецца ў фондах ЦНБ НАН Беларусі, налічвае 150 адзінак захавання з крайнімі датамі дакументаў: 1905 — 1977 гг.

Усе матэрыялы размеркаваны па тэматычных групах і адлюстраваны ў трох вопісах. Трэці вопіс змяшчае інфармацыю пра страхавыя фотакопіі асобных дакументаў з архіва пісьменніка, што былі зроблены Г. Гарэцкай і перададзены ў дар бібліятэцы ў 1982 годзе.

Да юбілейнай даты ў ЦНБ НАН Беларусі на аснове каштоўных архіўных матэрыялаў і друкаваных дакументаў з фонду аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў была падрыхтавана выстаўка, якая дапамажа больш даведацца пра жыццёвы і творчы шлях М. Гарэцкага. У прыватнасці, з дазволу акадэміка Радзіма Гарэцкага, пляменніка класіка беларускай літаратуры, упершыню ўвазе наведвальнікаў прапанавана рукапісная спадчына пісьменніка: першыя спробы пяра, рукапісы апавяданняў, аповесцей, абразкоў, замалёвак, накідаў за розныя гады, шматлікія літаратурныя нарыхтоўкі і фрагменты да задуманых і незавершаных твораў. Так, вялікую цікавасць выклікаюць вучнёўскія сшыткі з рукапісам «Камароўскай хронікі» — своеасаблівым летапісам сялянскага, сямейнага жыцця, у якой аўтар імкнуўся адлюстраваць лёс беларускага народа ад прыгоннага права да сучаснасці; пераклад на рускую мову «Віленскіх камунараў»; шматлікія накіды і фрагменты аднаго з апошніх, так і недапісаных твораў «Скарбы жыцця», дзе адлюстраваны драматызм становішча рэпрэсіраванага пісьменніка, яго роздумы пра сутнасць жыцця.

# Дар вялікага земляка

Чытальная зала «Бібліятэка Янкі Сіпакова» адкрылася ў Аршанскай цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя А. С. Пушкіна

**Валянціна САМОНАВА**

«Я не набыў вялікіх скарбаў, ні золата, ні дыяментаў, але ў мяне ёсць адна каштоўнасць — кнігі. Кнігі — мае сябры. Я збіраў іх усё жыццё і, як адзначаюць знаўцы, гэта, бадай, самая лепшая бібліятэка ў Мінску. Я падараваў сваіх сяброў вам, каб у іх з'явілася многа сяброў-чытачоў. Гэтыя кнігі дастойны быць у гарадской бібліятэцы і хачу, каб яны былі менавіта ў Оршы», — пісаў пісьменнік Янка Сіпакоў у звароце да гарадскіх улад. Ён вырашыў падараваць свой кнігазбор Аршанскай гарадской бібліятэцы імя А. С. Пушкіна, з якой заўжды сябраваў. Іван Данілавіч паставіў толькі дзве, але абавязковыя, умовы: супрацоўнікі «Пушкінкі» абавязаны захаваць цэласнасць бібліятэкі, не раз'ядноўваць па фондах, і кнігі павінны знаходзіцца ў Оршы.

10 сакавіка 2011 года Івана Данілавіча не стала. Але дзякуючы намаганням яго блізкіх — жонкі Раісы Фёдараўны, сына Сяргея Іванавіча — яго мара здзейснілася: уласная бібліятэка папоўніла скарбніцу Аршаншчыны.

Да 945-гадовага юбілею горада, у Год кнігі, аршанцы атрымалі сапраўдны падарунак — аднаўленую пасля капітальнага рамонту цэнтральную бібліятэку. Цяпер у ёй адкрылася чытальная зала Янкі Сіпакова.

Бібліятэка пісьменніка тэматычная і жанрава разнастайная. У ёй ёсць грунтоўныя зборы сусветнай паэзіі і прозы, літаратура па гісторыі, філасофіі, эстэтыцы, мастацтве і іншых дысцыплінах, а таксама энцыклапедыі, даведнікі, слоўнікі. Іван Данілавіч збіраў кнігі цэлымі серыямі. На сённяшні дзень фонд бібліятэкі налічвае каля 6 тысяч экзэмпляраў.

Асаблівую каштоўнасць уяўляюць рэдкія выданні. Сярод іх — «Сачыненні Р. П. Данілеўскага» (1901 г.), «Сачыненні Мікалая Грэча» (1855 г.), «Сачыненні графа Салагуба» (1855 г.), кніга Ядвігіна Ш. «Бярозка», выдадзеная «Віленскім выдавецтвам» Б. Клецкіна ў 1923 годзе, «Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік» Вацлава Ластоўскага (Коўна, 1924), зборнік вершаў Янкі Купалы «Шляхам жыцця», выдадзены ў 1923 годзе «Віленскім выдавецтвам» Б. Клецкіна, «Беларускі арнамент» (1953 г.) і іншыя.

Практычна ўся беларуская літаратура (больш як 550 экз.) у бібліятэцы з аўтографамі пісьменнікаў, вядомых людзей, з якімі сустракаўся і сябраваў Іван Данілавіч. Гэта Іван Шамякін, Максім Лужанін, Алег Лойка, Генадзь Бураўкін, Васіль Зуёнак, Ніл Гілевіч і шмат іншых. Адным з першых аўтографаў быў сяброўскі надпіс на томе паэзіі Пімена Панчанкі. Гэту кнігу падараваў пісьменніку яго аднакурснік сябра Юрый Новікаў, а праз некаторы час бібліятэка Івана Данілавіча папоўнілася кнігамі з аўтографамі самога паэта.



Фота Кастуся Дробава

Янка Сіпакоў.

«Дарагому другу і земляку ва ўсіх сэнсах (і па зямлі, і па сэрцу) Янку Сіпакову на добры ўспамін. Ул. Караткевіч. 21 лютага 78 г.», так падпісаў сваю кнігу «Зямля пад белымі крыламі» Уладзімір Караткевіч. А кніга казак «Чортаў скарб» была падпісана: «Чорту Янку Сіпакову ад чорта Уладзіміра Караткевіча».

«Дарагому Янку Сіпакову — паэту ва ўсіх адносінах і шчыраму сябру. Успомні, дружа, студэнцкія гады і наш 54-ы. З пажаданнем Нёмана радасці і Мінскага мора натхнення! Твой сябра Рыгор Барадулін» — такі надпіс можна прачытаць на кнізе. Дарэчы, амаль усе раннія выданні гэтага творцы маюцца ў бібліятэцы з аўтографамі. Гэта вельмі шчырыя дарчыя подпісы.

Калі ёсць жаданне пазнаёміцца з калекцыяй кніг Івана Данілавіча, супрацоўнікі бібліятэкі правядуць экскурсію, дзе можна больш падрабязна даведацца пра жыццё і творчасць Янкі Сіпакова.

# Незабыўны боль Афганістана

Вечар памяці «З пачуццём асабістай спрычыненасці» прайшоў у Віцебскай абласной бібліятэцы імя У. І. Леніна.

**Надзея КАСТУНОВА**

Падрыхтаваны супрацоўнікамі аддзела краязнаўчай літаратуры і бібліяграфіі, ён быў прымеркаваны да 24-й гадавіны вываду савецкіх войск з Афганістана.

На мерапрыемства былі запрошаны ўдзельнікі баявых дзеянняў у Рэспубліцы Афганістан, іх жонкі і матулі, удовы, жаночы савет афганскага таварыства «Братство», дэсантнікі 103-й асобнай гвардзейскай мабільнай брыгады.

Увазе гасцей вечара былі прадстаўлены кніжная выстаўка, падрыхтаваная супрацоўнікамі бібліятэкі, і музейная экспазіцыя «Вайна прыгожай не бывае...». Пра гісторыю стварэння экспазіцыі і Віцебскага гарадскога музея воінаў-інтэрнацыяналістаў распавёў былы саветнік у Афганістане па лініі МУС Валерый Чкалаў, а кароткую экскурсію правяла дырэктар музея Вольга Аляксандрава. На экспазіцыі былі прадстаўлены кадры з жыцця савецкіх салдат. Акрамя таго, удзельнікі афганскай вайны падзяліліся з прысутнымі сваімі ўспамінамі.

# Ад бунту да вызваленчага руху

Сёлета адзначаецца 150-годдзе з пачатку паўстання 1863 — 1864 гг. і 175-годдзе з дня нараджэння аднаго з яго лідараў Кастуся Каліноўскага. Дарэчы ўзгадаць пра дакументы, прысвечаныя гэтым падзеям, што захоўваюцца ў фондах Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

**Алена ФІРЫНОВІЧ, Алена ЦІТАВЕЦ**

Сярод іх — друкаваныя і рукапісныя матэрыялы XIX — XXI стагоддзяў, якія яскрава адлюстроўваюць цікавасць да паўстання на працягу 150-гадовай гісторыі і неадназначнасць ацэнкі яго сэнсу ў розныя часы: ад «бунту польскіх паноў і ксяндзоў за аднаўленне Польшчы (Рэчы Паспалітай)» да «беларускага нацыянальна-вызваленчага руху».

Адным з каштоўных дакументаў 150-гадовай даўніны з'яўляецца рукапіс «Апісанне ваенных дзеянняў Каргапальскага палка з польскімі мяцежнікамі». Каргапальскі (цяпер Каргаполь — горад у Архангельскай вобласці Расіі) драгунскі полк — кавалерыйскі полк рускай арміі. Рукапіс налічвае 238 аркушаў дакументаў ваеннага справаводства са звесткамі пра дзеянні палка, які быў пасланы ў экспедыцыю з мэтай падаўлення паўстання на Люблiншчыне. Храналагічныя рамкі дакументаў 12 снежня 1863-га — 1 верасня 1864-га. Усе яны напісаныя рознымі почыркамі дастаткова каліграфічна і пераплецены ў вокладку з кардону, абклеенага мармуровай паперай бардовага колеру, са скураным карашком.

Вялікую каштоўнасць уяўляюць друкаваныя выданні XIX стагоддзя, якія змяшчаюць творы сучаснікаў падзей: польскіх грамадска-палітычных дзеячаў (В. Пшыбароўскага, Б. Ліманоўскага) і расійскіх дарэвалюцыйных даследчыкаў (П. Бранцава, А. Мілавідава). Інфармацыя пра паўстанне пададзена з розных бакоў: у польскамоўных працах адлюстраваны справаводчыя матэрыялы і публіцыстыка кіраўніцтва паўстання, у рускамоўных — арганізацыйна-распараджальная дакументацыя расійскай адміністрацыі.

Сярод дакументаў пачатку XX стагоддзя вылучаецца 6-я кніга зборніка навуковых прац «Віленскі часоўнік» пад назвай «Архіўныя матэрыялы Мураўёўскага музея, якія адносяцца да польскага паўстання ў межах Паўночна-Заходняга краю». У ёй змешчаны маніфесты, цыркуляры, лісты паўстанцкага кіраўніцтва, спісы камандзіраў атрадаў, рапарты і г.д. Кніга была выдадзена да 50-годдзя паўстання.

Прадстаўлены працы беларускіх даследчыкаў, пачынаючы з 1920-х гадоў. Выклікае цікавасць зборнік «1863 г. на Міншчыне (Матэрыялы аддзела III аддзялення ўласнай Яго Імператарскай Вялікасці Канцылярыі)» (1927), падрыхтаваны супрацоўнікамі Польскага сектара Інбелкульта, у якім змешчана службовая перапіска таго часу: рапарты жандарскага штаб-афіцэра Мінскай губерні, ваенных начальнікаў ды іншых асоб. Характэрна, што ў працах беларускіх даследчыкаў У. Ігнатоўскага, Я. Віткоўскага, І. Цвікевіча падзеі 1863 — 1864 гадоў ацэньваюцца як «класавая барацьба супраць паноў і нацыянальна-вызваленчая супраць царызму».

Прадстаўляюць цікавасць і іншыя даследаванні савецкіх гісторыкаў. Маюць каштоўнасць і працы беларускіх даследчыкаў М. Біча, Г. Кісялёва, Э. Зайкоўскага і іншых, напісаныя з нацыянальных пазіцый.

У асабістых архівах гісторыка Мікалая Улашчыка, пісьменніка Уладзіміра Караткевіча, святара Адама Станкевіча (рукапісны фонд бібліятэкі) захоўваюцца дакументы (копіі архіўных матэрыялаў, выпіскі, чарнавікі твораў і інш.), якія дапамагаюць зазірнуць у творчую лабараторыю даследчыкаў, уявіць атмасферу іх працы над тэмай паўстання 1863 — 1864 гадоў.




Публікацыі 1990 — 2010-х гадоў сведчаць пра тое, што і дагэтуль не сціхаюць спрэчкі наконт гістарычнага сэнсу тых падзей. На думку навукоўцаў, супярэчлівасць тагачасных і сучасных ацэнак паўстання часта звязана з намаганнем аўтараў аналізаваць падзеі згодна з уласнымі палітычнымі перакананнямі.

Дарэчы, на сайце бібліятэкі (http://csl.bas-net.by) даступная віртуальная выстаўка «Старонкі гісторыі паўстання 1863 — 1864 гг.».

# Вяртанне Мікуліча

Мінулы год стаў часам урачыстага святкавання юбілеяў Янкі Купалы, Якуба Коласа і Максіма Танка. Але ў «медаля» быў і адваротны бок: менш заўважанымі засталіся юбілеі іншых пісьменнікаў. Напрыклад, Барыса Мікуліча, які нарадзіўся 6 (19) жніўня 1912 года ў Бабруйску.

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**

Біяграфія гэтага творцы дастакова характэрная для свайго часу. Сябра бабруйскага філіяла літаратурнага аб'яднання «Маладняк», які аддаў належнае месца ў сваіх творах паслярэвалюцыйнай рамантыцы і надзеям на хуткую перабудову грамадскага ладу, ён быў двойчы рэпрэсіраваны (у 1937-м і 1949-м). Памёр у 1954 годзе ў Краснаярскім краі, куды быў адпраўлены на вечнае пасяленне. Рэабілітаваны праз тры месяцы пасля смерці.

Галоўным творам Мікуліча справядліва лічыцца «Аповесць для сябе». Фактычна, гэта дзённікавыя запісы, якія ахопліваюць перыяд са жніўня 1946 па чэрвень 1948 года. Але адначасова «Аповесці...» уласцівы шматлікія экскурсы ў мінулае (напрыклад, згадкі пра жыццё ў Бабруйску ў 1920-я гады, падрабязнасці мінскага літаратурнага жыцця ў 1930-я і г. д.). Запісы, упершыню апублікаваныя толькі ў часы перабудовы, сталі аднымі з першых «гулагаўскіх» твораў у беларускай літаратуры.

Пра дадатковыя штрыхі да біяграфіі Б. Мікуліча можна даведацца дзякуючы лісту Тамары Яўгенаўны Сакаловай, які яна даслала ў «ЛіМ». Іх знаёмства адбылося ў 1947 годзе, калі Барыс Міхайлавіч папраўляў сваё здароўе ў вёсцы Цераховічы каля Лагойска, дзе жыў яго стрыечны брат Вікенцій Антонавіч Мікуліч (дзядуля лімаўскай адрасаткі). Тамара Яўгенаўна яшчэ была дашкольніцай, але добра запомніла той перыяд, падрабязна апісаны ў «Аповесці для сябе».

Як адзначыла Тамара Сакалова, у Лагойску ў сярэдняй школе № 1 адкрыты музей, дзе настаўніца беларускай мовы Вера Саўрыцкая сабрала матэрыял пра Мікуліча і іншых айчынных творцаў. Акрамя таго, музей, арганізаваны мясцовым настаўнікам гісторыі Міхаілам Захарцавым, дзейнічае і ў пасёлку Машукоўка Краснаярскага краю, дзе жыў і памёр Барыс Мікуліч. На яго магіле жыхары ўстанавілі помнік. Міхаіл Георгіевіч лістуецца з загадчыцай бабруйскай бібліятэкі № 4 Святланай Калютай і з супрацоўнікамі Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва. Да святкавання 100-гадовага юбілею пісьменніка бібліятэка № 4 атрымала імя Б. Мікуліча. Перад гэтым С. Калюта на працягу пяці гадоў збірала матэрыялы пра пісьменніка, падключыўшы да пошукаў мясцовых краязнаўцаў. Яе ініцыятыва была падтрыманая аддзелам культуры Бабруйскага райвыканкама, які паспрыяў правядзенню ўрачыстага мерапрыемства з нагоды юбілею.

Акрамя таго, у мінулым годзе Цэнтральная бібліятэчная сістэма горада Бабруйска і мясцовая гарадская бібліятэка № 4 выдалі дзве брашуры. Першая, «Лісты з сібірскай ссылкі» (укладальнік С. Калюта), уключае лісты Барыса Мікуліча, якія захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва і Бабруйскім краязнаўчым музеі і дазваляюць скласці больш поўнае ўяўленне пра асобу пісьменніка. Выданне можна ўмоўна падзяліць на некалькі блокаў. Першы — ліставанне Мікуліча са сваімі сёстрамі (дзвюма роднымі і стрыечнай). Другі — яго лісты да актрысы Таццяны Бандарчык, якая іграла на сцэне Віцебскага і Бабруйскага тэатраў. Трэці — перапіска з Міхасём Лыньковым. Іх дапаўняюць ліст да маршала Варашылава, тагачаснага старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, які быў напісаны ўжо пасля смерці Сталіна (у ім пісьменнік патрабуе перагляду сваёй справы). На апошніх старонках кнігі — лісты жонкі Мікуліча да сястры пісьменніка, у якіх апісваюцца падрабязнасці яго смерці і ўспаміны пра дзень пахавання. Другая брашура, «Вяртанне», уключае рускамоўныя вершы мясцовых паэтаў (Веры Бенядзіктавай, Аляксея Гарэліка, Веры Дудко, Леаніда Чабатарова, Іны Шчагловай і Браніславы Яскевіч), прысвечаныя Барысу Мікулічу.

Зразумела, такое паважлівае стаўленне жыхароў Бабруйска да творцы заслугоўвае вялікай пашаны. Але ў сваім лісце Тамара Сакалова выказвае слушную думку: «Праўда і справядлівасць мусяць перамагчы ў памерах усёй Беларусі, а не толькі ў асяроддзі землякоў». Таму паўнавартаснае вяртанне імя Барыса Мікуліча яшчэ толькі пачынаецца.

# Падарунак за чытанне

Не сакрэт, што сёння няпроста прывабіць маленькіх чытачоў кнігай на беларускай мове. Часта можна пачуць: «Дайте мне лучше что-нибудь на русском языке». Крыўдна, бо у беларускай дзіцячай літаратуры ёсць сапраўдныя шэдэўры мастацкага слова. Дык што рабіць?

**Марына ПЕТРАШКЕВІЧ**

У дзіцячай бібліятэцы № 8 г. Мінска была праведзена акцыя «За чытанне кніг раздаю падарункі». Для яе было адабрана каля васьмідзесяці выданняў для малодшых школьнікаў. Асноўную частку складалі кнігі беларускіх пісьменнікаў на роднай мове.

Сярод кніг былі «Палескія рабінзоны» Янкі Маўра, «Промні маленства» Івана Шамякіна, «Пра смелага ваяку Мішку і яго слаўных таварышаў» Міхася Лынькова, «Шчарбаты талер» Андрэя Федарэнкі, «Касмічная адысея хлопчыка Стасіка» Кацярыны Хадасевіч-Лісавой, «Прыгоды мышкі Пік-Пік» Людмілы Рублеўскай, «Чые рукі прыгажэйшыя?» Івана Муравейкі, «Эрпіды на планеце Зямля» Паўла Місько, «Як пані Чаротная на госці ў Палангу бегала»Алены Масла, «Прыгоды Нуліка» Уладзіміра Ліпскага, «Вася Лайдачкін у краіне шкодных звычак» Генадзя Аўласенкі ды іншыя.

Чытачы па-рознаму рэагавалі на падбор літаратуры. Хтосьці, даведаўшыся, што практычна ўсе кнігі на беларускай мове, адразу адыходзіў, кагосьці са словамі: «Это же на белорусском языке, ты не будешь это читать» адводзілі бацькі. Але большасць дзяцей і дарослых затрымліваліся, гарталі выданні і бралі пачытаць. Шмат хто пытаўся: «Якая кніга самая цікавая?» «Што лепш узяць для дзіцяці?» Шмат хто з дзяцей браў адразу па некалькі кніг.

Вось так беларускамоўныя кнігі знаходзяць свайго чытача.

# Аўтобус — месца для рэкламы?

Час тэхнічнага прагрэсу, калі нават школьнікі малодшых класаў карыстаюцца камп'ютарам і інтэрнэтам, падштурхоўвае бібліятэкараў да пошуку новых метадаў працы і прапаганды кнігі. Некалькі ідэй прапанавала Антаніна Уварава, загадчыца гомельскай гарадской бібліятэкі № 11.

**Галіна СЯМЁНАВА**

Асабліва арыгінальным атрымаўся праект «Чытаючы аўтобус». Пры дапамозе Адміністрацыі Савецкага раёна і аўтобуснага парка № 1 пасажыры аднаго з гарадскіх аўтобусаў змаглі пачуць шмат карыснай інфармацыі. Некаторыя ўпершыню пазнаёміліся з творчасцю сучасных беларускіх паэтаў і празаікаў, атрымалі ў падарунак разнастайныя буклеты і кнігі. Акцыя «Чытаючы аўтобус» праходзіла некалькі разоў і была прымеркавана да рэспубліканскіх свят. Акрамя таго, у цёплыя сонечныя дні Антаніна Уварава арганізоўвала своеасаблівы выхад з бібліятэкі на вуліцу. У скверы каля Любенскага возера бібліятэкары размясцілі на стэндзе беларускія газеты і часопісы, цікавую мастацкую літаратуру, знаёмілі гараджан з кніжнымі навінкамі.

# Скарына зноў у Празе

Францыск Скарына. Адразу прыгадваюцца тры гарады: Полацк, Падуя, Прага. У апошнім вядомы ва ўсім свеце беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар выдаў 23 кнігі Біблії, тым самым назаўсёды звязаўшы Прагу з Беларуссю. Стагоддзі мінаюць, а сувязі толькі мацнеюць. І набываюць новыя адценні: у снежні мінулага года Беларускі саюз кампазітараў у межах Года кнігі распачаў праект "Францыск Скарына ў Празе", накіраваны на прадстаўленне беларускай арганнай музыкі ў кантэксце еўрапейскай XVI — XVII стагоддзяў. Пра гісторыю праекта і падзеі, з ім звязаныя, распавяла член БСК і Міжнароднай асацыяцыі "Мастацтва і адукацыя XX стагоддзя", лаўрэат прэміі Беларускага прафсаюза работнікаў культуры ў намінацыі "Музычнае мастацтва" кампазітар Ганна Кароткіна.



*Салістка Полацкага Сафійскага сабора К. Пагарэлая, салістка Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра Г. Бяляева, кампазітар Г. Кароткіна.*

**Алеся АРЫЦКАЯ**

— Ужо не адзін год я займаюся арганізацыяй канцэртаў духоўнай музыкі па ўсёй Беларусі, імкнуся ахапіць невялікія гарады альбо мястэчкі — гук аргана мае велізарны сэнс, у ім — жывая традыцыя. Калі ў храме няма аргана ці ён не працуе, мы выконваем духоўныя еўрапейскія творы XV — XVIII стст., духоўную музыку сучасных беларускіх кампазітараў на сінтэзатары з тэмбрам аргана — атрымліваецца паўнавартасны арганны канцэрт. Для многіх людзей такая музыка — сапраўднае адкрыццё. А ў мінулым годзе, сімвалам якога стала кніга, з'явілася ідэя спалучэння музыкі і выдавецкай дзейнасці Францыска Скарыны — праведзенне канцэртаў арганнай музыкі ў тых краінах, з якімі звязана імя гуманіста-асветніка, і, такім чынам, пашырэнне культурных сувязей паміж краінамі, тым больш што ў 2017-м будзе святкавацца 500-годдзе выдання Скарынам "пражскай" Біблії.

Спачатку БСК планаваў ажыццяўленне праекта "Францыск Скарына ў Празе" не толькі ў Чэхіі, але ў Літве і Польшчы, аднак пакуль ажыццявіць яго атрымалася толькі ў Празе. Праект поўнасцю падтрымала пасольства Беларусі ў Чэшскай Рэспубліцы, Міністэрства культуры Беларусі дапамагло з фінансаваннем. Хочацца выказаць падзяку Ігару Лучанку, старшыні БСК, які заўсёды падтрымлівае цікавыя прапановы, звязаныя з выкананнем беларускай музыкі за мяжой, і які таксама аказаў істотную дапамогу ў арганізацыі. Важным пунктам праекта была сустрэча ў Карлавым універсітэце і маё выступленне, прысвечанае прадмове да Псалтыра Францыска Скарыны. Шмат гадоў я займаюся даследаваннем культурнай спадчыны: будучы яшчэ студэнткай Акадэміі музыкі, захапілася медыявістыкай, паступова перайшла да самастойнага даследвання ірмалояў — старадаўніх праваслаўных песнапенняў, вывучаю бібліістыку. З дакладамі па гэтых тэмах выступала на міжнародных канферэнцыях у Гомелі, Полацку, Гальшанах.

**— Распавядзіце, калі ласка, пра самыя цікавыя моманты праекта "Францыск Скарына ў Празе".**

— Пачалося ўсё са знаёмства з Прагай. Спачатку дэлегацыя артыстаў, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Чэшскай Рэспубліцы В. Марковіч і супрацоўнікі Пасольства Беларусі ў Чэхіі, а таксама прадстаўнікі беларускай дыяспары ўсклалі кветкі да помніка Францыску Скарыне ў Градчанах. Для нас была арганізавана цікавая экскурсія ў Славянскую бібліятэку, дзе мы пазнаёміліся з часопісам 1930 г. "Іскры Скарыны". Кульмінацыяй праекта сталі два канцэрты арганнай музыкі ў Касцёле Панны Марыі пад ланцугом, адным з самых старажытных касцёлаў Прагі. Трэба адзначыць, у снежні тут канцэрты не праводзяцца, бо існуе велізарная рызыка захварэць — тэмпература ў памяшканні вельмі нізкая, але мы не пабаяліся, і эфект, канечне, быў каласальны. Упэўнена, што для "пражскіх" беларусаў і прадстаўнікоў дыпламатычных місій канцэрт стаўся першым знаёмствам з беларускай арганнай музыкай.

Выканаўцай была адна з лепшых арганістак Беларусі — салістка Полацкага Сафійскага сабора Ксенія Пагарэлая, гучаў цудоўны голас салісткі Беларускага дзяржаўнага музычнага акадэмічнага тэатра Ганны Бяляевай. Праграма пачалася з твора "Таката і фуга" рэ мінор І. С. Баха, затым гучалі творы А. Вівальдзі, Г. Гендэля, Д. Пергалезі, Д. Качыні, С. Манюшкі; такія мае сачыненні, як "Францыск Скарына", сюіта для аргана (часткі "Францыск Скарына", "Біблія Скарыны" і "Маргарыта") і прэм'ера сюіты гістарычнага плана "Гальшаны". Завяршыла канцэрт "Аве Марыя" Ігара Лучанка. Канцэрты атрымалі станоўчы розгалас. Узрушаная публіка была ў захапленні ад голасу спявачкі Ганны Бяляевай і майстэрства арганісткі Ксеніі Пагарэлай.

**— Ці плануецца працяг праекта ў 2013-м? Калі так, якія яго далейшыя перспектывы?**

— Беларуска-чэшскае таварыства, сябрам якога я з'яўляюся з нядаўняга часу, пастанавіла праводзіць мерапрыемствы такога кшталту кожны год і рыхтавацца да 500-годдзя выдавецкай дзейнасці Францыска Скарыны. Таксама мы хацелі б правесці канцэрт арганнай музыкі ў Расіі на Днях культуры Беларусі ў Расіі, таму што арганная музыка — гэта дэманстрацыя культурнай спадчыны краіны, глыбокіх гістарычных еўрапейскіх каранёў.

# «Уладарыць слова розумам і сэрцам...»

Прэзентацыя кнігі «Proglas» прайшла ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы. Адначасова былі прадстаўлены работы славацкага мастака-скульптара Людмілы Цвенграшовай з асабістай калекцыі Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Славацкай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Марыяна Сэрваткі, прымеркаванай да 1150-годдзя прыходу Св. Кірыла і Мяфодзія ў Вялікую Маравію. Падчас імпрэзы паэма ўпершыню прагучала на беларускай мове.

**Дзіяна КАРОЛЬ**

Свет ушаноўвае памяць стваральнікаў славянскай азбукі, царкоўнаславянскай мовы, прапаведнікаў хрысціянства братоў Кірылы і Мяфодзія. Значэнне іх справы неацэнна, нездарма Папа Рымскі Ян Павел II назваў іх у 1980 годзе апекунамі Еўропы. Падчас свайго знаходжання ў Маравіі, куды браты былі запрошаны ў 862 годзе князем Расціславам з просьбай прапаведваць на роднай насельніцтву мове, яны перакладалі царкоўныя кнігі, у тым ліку Біблію, на глаголіцу, навучалі славян чытанню і пісьму. Менавіта там Канстанцін Філосаф (св. Кірыла) і напісаў «Проглас» — першую славянскую паэму, створаную ў якасці прадмовы да першай славянскай Біблії, дзякуючы якой стараславянская мова стала яшчэ адной літургічнай мовай хрысціянства.

— Я ганаруся тым, што Біблія была перакладзена на славянскую мову ў Вялікай Маравіі, — зазначыў Марыян Сэрватка. — Пераклад Біблії — гэта свята, таму св. Кірыла і напісаў прыгожы тэкст «Проглас», які прэзентуецца сёння. Нельга забываць, што малавядомы верш належыць не толькі славацкаму, але ўсім славянскім народам, ён — тое, што нас аб'ядноўвае. Адзначу, што мы вельмі хацелі ўпрыгожыць музей да прэзентацыі, таму сёння тут прадстаўлены барэльефы вядомага славацкага мастака-скульптара Людмілы Цвенграшовай. Яны са мной ужо шмат год: выстаўляліся ў Варшаве ў Славацкім інстытуце, адным з заснавальнікаў якога я з'яўляюся; ездзілі ў Рым, дзе я быў паслом у Ватыкане; цяпер — у Мінску. Вы нават не ўяўляеце, сведкамі якой колькасці цікавых размоў яны з'яўляюцца!

Людміла Цвенграшова, член Саюза славацкіх мастакоў, аўтар афіцыйнага медаля Яна Паўла II, уладальнік ордэна Людавіта Штура за дасягненні ў галіне мастацтва, праз сваю творчасць уводзіць грамадства ў гісторыю Славакіі. Знакавая гістарычна-культурная падзея — прыход Кірылы і Мяфодзія ў Вялікую Маравію — адзін з асноўных матываў мастацкіх работ скульптара. «Чаканне. Кароль Расціслаў» і «Прыход святых Кірылы і Мяфодзія» — барэльефы мастачкі, якія былі прадстаўлены на выстаўцы.




*Прадмова да Біблії на глаголіцы, славацкай і англійскай мовах. Браціслава, 2004 г.*



*Людміла Цвенграшова «Прыход Святых Кірылы і Мяфодзія». 1984. Акрыл.*

Кніга «Proglas» выдадзена на глаголіцы, славацкай і англійскай мовах. Але не засталася ўбаку і беларуская: паэт, бард Алесь Камоцкі пераклаў твор IX стагоддзя, які славіць вечнае свята Хрыста. Прэзентавала пераклад паэмы кіраўнік народнага літаратурнага тэатра «Жывое слова» Алеся Сівохіна.

— Калі прагледзеў тэкст, зразумеў, што ён вельмі актуальны сёння, таму я не засяроджваўся на колькасці літар, але пастараўся пераказаць яго так, каб было зразумела нашым людзям, — прызнаўся Алесь Камоцкі.

Прэзентацыя «Прогласа», тэкст якога больш як тысячу гадоў прыцягвае ўвагу навукоўцаў, натхняе мастакоў, пісьменнікаў і музыкантаў, нездарма праходзіла ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы. Як адзначыла дырэктар установы Алена Ляшковіч, галоўныя матывы твора — духоўнае спасцыжэнне жыцця як Божага дару, сардэчнае перажыванне і, разам з тым, прадчуванне высокага сэнсу болю і пакут на шляху да вечнасці — уласцівыя і літаратурнай творчасці Янкі Купалы.

ЛіМ

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73

E-mail: lim_new@mail.ru

Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.

Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 63856

Кошт у розніцу — 3000 рублёў

Наклад — 2762
Умоўна друк. арк. 3,72

Нумар падпісаны ў друк
28.02.2013 у 11.00

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне
№ 7 ад 22.07.2009 г.

Заказ — 1020

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-4686